

# БАЙРАМ

Квартальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль - Кітаб"

---

1999 ВЫПУСК 4

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

выпуск № 4(36)

КВАРТАЛЬНІК
МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ
І БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

Мінск
1999

**БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ.** / Квартальнік Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 4 (36) – Мн., 1999, – 80 стар.

Квартальнік "Байрам" – выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі беларускіх татар і важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Выходзіць чатыры разы на год. Разлічаны на мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар.


| | |
|---|---|
| Адказны за выпуск | **Ібрагім Канапацкі** |
| Рэдактары | **Ісмаіл Александровіч,<br>Разалія Александровіч,<br>Яўген Гучок,<br>Ібрагім Канапацкі,<br>Дзмітры Чымбаевіч,<br>Таццяна Якубоўская** |
| Набор | **Дзмітры Чымбаевіч** |

**Рэдакцыя выказвае шчырую ўдзячнасць Рамуальду Сабалеўскаму за пастаянную ўвагу і вялікую дапамогу ў выданні квартальніка. Зычым Вам, шаноўны пане Рамуальд, добрага здароўя на доўгія гады. Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга!**

بسم اللّٰه الرّحمن الرّحيم

## З прэміяй цябе, "БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ"

Як стала вядома са сродкаў друку, агенцтва БелТА цераз свайго карэспандэнта Аксану Півавар 15 студзеня 1999 г. распаўсюдзіла звестку аб узнагародах пераможцаў творчага спаборніцтва ў конкурсе па асвятленні дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, развіцці нацыянальных супольнасцей і міжнацыянальных адносін паміж перыядычнымі выданнямі і асобнымі журналістамі, якія ладзілі Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей і Дзяржаўны камітэт па друку.

Адразу скажу і напішу, што ў дзяржаўным друку адны выданні далі поўнасцю паведамленне БелТА, другія скажона і скарочана, але ўсе з памылкай. Пра памылку ніжэй. Але адразу адзначым, што штоквартальнік-часопіс "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" усюды адзначаны як узнагароджаны другой прэміяй.

А зараз пра памылку ў друку, бо штоквартальнік "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" у ім пазначаны як "еженедельник" (*штотыднёвік*). Аб скажэнні. Так атрыманец трэцяй прэміі Аляксандр Жалкоўскі, напрыклад, у рэспубліканскай газеце "Белорусская нива" названы як лідскі журналіст, а гэта зусім не так, бо ён не працуе ў ніводнай лідскай газеце, а з'яўляецца ўласным карэспандэнтам газеты "Гродзенская праўда" па Лідскім рэгіёне. Я як бачна, розніца істотная.

Не дала тая ж "Белорусская нива" звестак, акрамя першай, другой, трэцяй прэмій, пра іншых атрыманцаў прэмій і проста адзначаных выданняў. Пасля гэтага і здзіўляешся, чаму так выбарачна ў дзяржаўным друку асвятляецца дзяржаўная нацыянальная палітыка.

Да вялікага шкадавання, з поўнай інфармацыі БелТА Аксаны Півавар бачна, што, напрыклад, акрамя адной асобы, зусім не адзначана ніводнае берасцейскае выданне. Шчыра кажучы, гэта вельмі сумна і наводзіць на цяжкі роздум.

Але яшчэ больш непрыемна, што абсалютная большасць дзяржаўных сродкаў друку праігнаравала звестку БелТА з паведамленнем Аксаны Півавар і рашэнне, падкрэслю, двух Дзяржаўных камітэтаў.

# ДЫПЛОМ

## II ступені

лаўрэату Рэспубліканскага творчага конкурсу

***па асвятленню дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, нацыянальна-культурнага развіцця нацыянальных супольнасцей Беларусі і міжнацыянальных адносін***

**калектыву квартальніка**
**«Байрам. Татары на зямлі Беларусі»**

***за мэтанакіраваную сістэмную работу па ўсебаковаму асвятленню дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, выхаванню культуры міжнацыянальных адносін, садзейнічанне дзейнасці нацыянальна-культурных аб'яднанняў***

Старшыня
Дзяржаўнага камітэ
Рэспублікі Беларусь
па друку




М.В.Падгайны

Таму абвешчаныя БелТА журналісты-прэмійцы так і не сталі героямі рэпартажаў, больш таго, выданні-адзначэнцы і творы журналістаў-прэмійцаў так і не папалі на выставы ў бібліятэках і клубах. Ствараецца тужлівае ўражанне, што ўся гэтая кампанія двух Дзяржаўных камітэтаў была толькі... дзеля палачкі.

Штоквартальнік-часопіс "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" – гэта першае перыядычнае выданне сярод беларускіх татараў за ўсю сёння ўжо болей за 600-гадовую гісторыю іх пасялення *(сужыцця, атабарывання, асадніцтва)* на тутэйшых землях.

На працягу васьмі гадоў *(1991–1998)* нязменным галоўным рэдактарам квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" з 1 па 27 нумар быў буйнейшы беларускі энцыклапедыст, адзін з першых беларускіх татараў, які ў 1976 г. атрымаў ганаровае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, Якуб *(Якаў)* Адамавіч Якубоўскі. Менавіта ў энцыклапедычнасці была пры ім і ўнікальнасць, і прыцягальнасць, і цікавасць, і павучальнасць квартальніка.

Разам з Якубам Адамавічам пры выданні штоквартальніка пастаянна працаваў і творча крочыў з ім віднейшы беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч, вучоны-педагог Ібрагім Барысавіч Канапацкі, які пасля адыходу ў лепшы свет свайго любага брата і старэйшага сябра, настаўніка заслужана заняў яго цяжкі пост, зноўку, як і ў таго, без аплаты, без кабінета, без штатных супрацоўнікаў, без пастаяннага дзяржаўнага фінансавання.

На дзень атрымання 2-ой прэміі ад двух Дзяржаўных камітэтаў былі апантаныя і бескарыслівыя супрацоўнікі "Байрама. Татары на зямлі Беларусі":

| | |
|---|---|
| Адказны за выпуск – | Ібрагім **Канапацкі,** |
| Рэдактары – | Ісмаіл **Александровіч,** |
| | Разалія **Александровіч,** |
| | Яўген **Гучок,** |
| | Ібрагім **Канапацкі,** |
| | Дзмітры **Чымбаевіч,** |
| | Таццяна **Якубоўская.** |

Гэта ўсе людзі шчырыя, самаадданныя, самаахвярныя, з высокім пачуццём адказнасці, мне добра вядомы, нават ні разу не бачаны мной яшчэ і кампутарны наборшчык, калі я дакладна гэтае напісаў, працавіты, як рабочая пчолка, Дзмітры Чымбаевіч, бо ўсё цягнуся і цягнуся за прагрэсам, а гэты хітрэц чамусьці шпарка ўцякае ад мяне. Гэта іх намаганнямі і творчым удзелам нараджаецца зараз кожны чарговы нумар. Але "нарадзіць" дзіця-часопіс – гэта яшчэ не ўсё! Большыя цяжкасці, як яму даць хаду ў свет. Гэта,

мабыць, ведае, якія цяжкасці і згрызоты пры гэтым ён выносіць, толькі адказны за выпуск Ібрагім Канапацкі, пры якім штоквартальнік набыў другое дыханне, "патлусцеў" і "дайшоў" да таго, што ўрэшце яго заўважыла чынавенства двух кабінетаў-ведамстваў і нават дала сваю прэмію.

Да слова, сярод усіх выданняў суполак нацыянальных меншасцей Беларусі, "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" атрымаў першым і прэмію, і афіцыйнае прызнанне! А раз назвалі ў дзяржdruку "еженедельником" *(штотыднёвікам)*, дык гэтым двум Дзяржаўным камітэтам трэба і выдзеліць для гэтых мэтаў пэўнае фінансаванне, у Доме друку вылучыць кабінеты, стаўкі і даць вялікую дарогу свайму абранцу!..

Так, прыемная вестка! Я з радасцю віншую і калектыў "Байрама. Татары на зямлі Беларусі", і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь, і Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" з гэтай навінай. Жадаю новых поспехаў, шчасця, здароўя і радасці!

Ваш сябра **М.Маліноўскі**

## ПРЕМИИ ЖУРНАЛИСТАМ

Журналисты редко бывают героями репортажей. Однако и им случается попасть на свой "пьедестал почёта", как, например, коллективу газеты "Гродзенская праўда". Именно этой редакции присуждена первая премия по итогам Республиканского творческого конкурса, посвящённого национальной политике.

Организовали творческое состязание Государственный комитет по делам религий и национальностей и Государственный комитет по печати. Конкурс по освещению государственной национальной политики, развития национальных общностей и межнациональных отношений проводился среди периодических изданий и отдельных журналистов.

Как сообщили корреспонденту БелТА в Госкомпечати, вторую премию получит еженедельник "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб", третью – лидский журналист Александр Желковский.

**Аксана Пивовар *(БелТА)***
*(Газета "Белорусская нива", № 230-231, 18.12. 1999 г.)*



## Кур'ан

### Сура дванаццатая — Йусуф

*У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

**89 (89).** Ён сказаў: *"Ці ведаеце вы, што вы зрабілі з Йусуфам і яго братам, калі вы былі ў няведанні?"*

**90 (90).** Яны сказалі: *"Хіба ж ты на самай справе Йусуф?"* Ён сказаў: *"Я — Йусуф, а гэта — брат мой. Аллаг зрабіў нам ласку; сапраўды, хто богабаязны і цярплівы... дык Аллаг не губляе ўзнагароды добрадзейных!"*

**91 (91).** Яны сказалі: *"Клянёмся Аллагам! Аллаг аддаў перавагу табе перад намі, і, сапраўды, мы былі грэшнікамі".*

**92 (92).** Ён сказаў: *"Няма папрокаў сёння над вамі! Даруе Аллаг вам, — бо Ён літасцівы з літасцівых!*

**93 (93).** *Ідзіце з гэтай маёй кашуляй і накіньце яе на твар майго бацькі — ён зробіцца відушчым, і прыйдзіце да мяне з усёй вашай сям'ёй".*

**94 (94).** І калі адыйшоў караван, сказаў бацька іх: *"Я адчуваю пах Йусуфа. Калі б вы ні лічылі мяне шалёным!"*

**95 (95).** Яны сказалі: *"Клянуся Аллагам, сапраўды, ты — у сваёй старой памылцы!"*

**96 (96).** Калі ж прыйшоў вястун, ён накінуў яе на твар, і той зноў зрабіўся відушчым.

**97.** Ён сказаў: *"Хіба я вам не казаў, што ведаю ад Аллага тое, чаго вы не ведаеце?"*

**98 (97).** Яны сказалі: *"О, ойча наш! Прасі нам прабачэння за нашы грахі. Бо мы былі грэшнікамі".*

**99 (98).** Ён сказаў: *"Я буду прасіць прабачэння для вас у майго Госпада. Сапраўды, Ён — даруе і літасцівы!"*

**100 (99).** І калі яны ўвайшлі да Йусуфа, ён узяў да сябе сваіх бацькоў і сказаў: *"Увайдзіце ў Егіпет, калі Аллагу трэба, у бяспечнасці!"*

**101 (100).** І ўзняў ён сваіх бацькоў на трон, і ўпалі яны перад ім ніц, і сказаў ён: *"О мой ойча! Гэта — тлумачэнне майго сну раней. Аллаг зрабіў яго ісцінай і зрабіў мне ласку, калі вывеў мяне з вязніцы і прывёў да вас з пустыні, пасля таго як сатана*

يَٰبَنِيَّ ٱذْهَبُواْ فَتَحَسَّسُواْ مِن يُوسُفَ وَأَخِيهِ وَلَا تَاْيْـَٔسُواْ مِن رَّوْحِ ٱللَّهِ
إِنَّهُۥ لَا يَاْيْـَٔسُ مِن رَّوْحِ ٱللَّهِ إِلَّا ٱلْقَوْمُ ٱلْكَٰفِرُونَ ﴿87﴾
* فَلَمَّا دَخَلُواْ عَلَيْهِ قَالُواْ يَٰٓأَيُّهَا ٱلْعَزِيزُ مَسَّنَا
وَأَهْلَنَا ٱلضُّرُّ وَجِئْنَا بِبِضَٰعَةٍ مُّزْجَىٰةٍ فَأَوْفِ
لَنَا ٱلْكَيْلَ وَتَصَدَّقْ عَلَيْنَآ إِنَّ ٱللَّهَ يَجْزِي ٱلْمُتَصَدِّقِينَ ﴿88﴾
قَالَ هَلْ عَلِمْتُم مَّا فَعَلْتُم بِيُوسُفَ وَأَخِيهِ إِذْ
أَنتُمْ جَٰهِلُونَ ﴿89﴾ قَالُوٓاْ أَءِنَّكَ لَأَنتَ يُوسُفُ قَالَ أَنَا۠ يُوسُفُ
وَهَٰذَآ أَخِي قَدْ مَنَّ ٱللَّهُ عَلَيْنَآ إِنَّهُۥ مَن يَتَّقِ وَيَصْبِرْ
فَإِنَّ ٱللَّهَ لَا يُضِيعُ أَجْرَ ٱلْمُحْسِنِينَ ﴿90﴾ قَالُواْ تَٱللَّهِ
لَقَدْ ءَاثَرَكَ ٱللَّهُ عَلَيْنَا وَإِن كُنَّا لَخَٰطِـِٔينَ ﴿91﴾
قَالَ لَا تَثْرِيبَ عَلَيْكُمُ ٱلْيَوْمَ يَغْفِرُ ٱللَّهُ لَكُمْ وَهُوَ أَرْحَمُ
ٱلرَّٰحِمِينَ ﴿92﴾ ٱذْهَبُواْ بِقَمِيصِي هَٰذَا فَأَلْقُوهُ عَلَىٰ وَجْهِ أَبِي
يَأْتِ بَصِيرًا وَأْتُونِي بِأَهْلِكُمْ أَجْمَعِينَ ﴿93﴾ وَلَمَّا فَصَلَتِ
ٱلْعِيرُ قَالَ أَبُوهُمْ إِنِّي لَأَجِدُ رِيحَ يُوسُفَ لَوْلَآ أَن
تُفَنِّدُونِ ﴿94﴾ قَالُواْ تَٱللَّهِ إِنَّكَ لَفِي ضَلَٰلِكَ ٱلْقَدِيمِ ﴿95﴾

*ўтварыў сварку паміж мной і маімі братамі. Бо Гасподзь мой схільны да дабра, да чаго пажадае. Сапраўды, ён — ведае, мудры!"*

**102 (101).** *Госпадзі! Ты даў мне ўладу і навучыў мяне тлумачэнню падзей, Творца нябёс і зямлі, Ты — мой апякун у свеце тутэйшым і будучым. Супакой мяне адданым Табе і залічы да праведных!"*

**103 (102).** Гэта — з аповедаў пра патаемнае, якое Мы ўнушаем табе; ты не быў каля іх, калі яны рашыліся на іх справу ў той час, як задумвалі інтрыгі. **(103).** І большая частка людзей, калі б ты і жадаў, неверуючыя!

**104 (104).** Ты не просіш у іх за гэта ўзнагароды. Гэта — толькі напамінак для светаў!

**105 (105).** Колькі знаменняў на нябёсах і на зямлі, міма якіх яны праходзяць і ад іх адварочваюцца!

**106 (106).** Не верыць большая частка з іх у Аллага без таго, каб не далучаць да Яго сваіх таварышаў!

**107 (107).** Хіба ж яны ў бяспечнасці ад таго, што прыйдзе да іх покрыва пакарання Аллага ці прыйдзе да іх час неспадзявана ў той час, як яны не ведаюць.

**108 (108).** Скажы: *"Гэта — мой шлях. Я звяртаюся да Аллага, валодаючы бачаннем — я і тыя, хто за мной пайшлі. Хвала Аллагу, я не з ліку многабожнікаў!"*

**109 (109).** І да цябе Мы пасылалі толькі людзей з насельнікаў паселішчаў, якім даравалі адкрыццё. Хіба яны не хадзілі па зямлі і не бачылі, які быў канец тых, хто быў да іх! Бо жытло будучага жыцця — лепш для тых, хто быў богабаязны. Хіба яны не зразумеюць?

**110 (110).** А калі пасланнікі прыходзілі ў адчай і думалі, што іх палічылі ілгунамі, да іх прыходзіла Наша дапамога, і былі выратаваны тыя, каго Мы пажадалі. Бо нельга адвярнуць Нашай моцы ад людзей грэшных!

**111 (111).** У аповедзе пра іх ёсць павучэнне для маючых розум; гэта не было выдуманым апавяданнем, але — для пацверджання праўдзівасці таго, што даравана да яго, для вытлумачэння ўсялякай рэчы, кіраўніцтвам і міласэрнасцю для людзей, якія паверылі.



# Нельга ставіць знак роўнасці паміж ісламам і тэрарызмам

Вельмі прыкра апошнім часам чытаць у газетах, чуць па радыё і глядзець па тэлевізары безапеляцыйныя заявы, выказванні, абвінавачванні ў адрас мусульман, Іслама ў сувязі з рознымі тэрарыстычнымі актамі, нявіннаю гібеллю людзей, іншымі ўражваючымі дзеяннямі, якія адбываюцца ў розных кутках свету. І гэтая лавіна дэзінфармацыі нарастае з кожным днём, як па чыімсці злым заказе. У такія хвіліны хочацца звярнуцца да такіх "інфарматараў, аглядальнікаў, вяшчацеляў" – а ці хоць бачылі яны сваімі вачамі сапраўдных мусульман, ці сутыкаліся з імі ў будзённых жыццёвых справах, ці чыталі крыніцы сапраўдных ведаў пра Іслам – Святы Каран і Суну Прарока Мухаммада, яго хадзісы, якія з'яўляюцца галоўнымі і безумоўнымі Законамі для кіраўніцтва ў жыцці і ў сваіх дзеяннях для кожнага сапраўднага мусульманіна.

Адказы на гэтыя пытанні ў сваёй большасці будуць адмоўныя, таму што, калі б яны, мы маем на ўвазе інфарматараў, аглядальнікаў, былі больш-менш знаёмыя з асновамі Іслама, яны б не ставілі знакі роўнасці паміж Ісламам і тэрарызмам, экстрэмізмам і іншымі заганнымі дзеяннямі, аб якіх у апошні час столькі гавораць і пішуць.

Для нас, мусульман Беларусі, такія супастаўленні выглядаюць абуральнымі, дзікімі, зламыснымі і не інакш.

Таму што на працягу шасцісотгадовага сумеснага жыцця на землях Беларусі поруч і ўперамешку з іншымі народамі і канфесіямі нашы продкі і мы нават і ў сваіх думках не дапускалі якіх-небудзь канфліктаў ці процістаяння.

Прадстаўнікі нашых мусульман, знаходзячыся ў асяродзі сапраўдных мусульман з удзелам вучоных-багасловаў на ісламскіх міжнародных канферэнцыях (*Тэгеран, Стамбул – у 1996 г., Вашынгтон – у 1998 г., Масква – у 1999 г.*) і ў хаджы – паломніцтве ў 1998 г., пранікаліся адзінай думкай і ўздеяннем ад гэтых сусветных сходаў – імкненнем да міру, да паразумення, да павагі адзін да аднаго, да адзінства і ўз'яднання, да ўзаемадапамогі, да цярпімасці і супраць прамога ці ўскоснага насілля і не толькі паміж мусульманамі, але і ў адносінах да іншых канфесій у адпаведнасці з Каранам:

*"Прызывай на шлях Госпада з мудрасцю і добрым угаворам"* (*Сура 16, аят 125*), або:

*"Я не буду пакланяцца таму, чаму вы будзеце пакланяцца, і вы не пакланяйцеся таму, чаму я буду пакланяцца... У вас — ваша вера, і ў мяне — мая вера!" (Сура 109, аяты 2, 3, 6).*

Нас, мусульман Беларусі, абураюць і зневажаюць заявы асоб, якія з лёгкасцю кідаюць абвінавачванні ў бок Ісламa і мусульман, калі дзесьці адбыўся тэрарыстычны акт, экстрэмісцкія дзеянні людзей, якія сябе называюць мусульманамі ці выдаюць за мусульман. Гэта асабліва стала відавочна пасля падзей у Югаславіі, Дагестане, пасля ўзрываў у Маскве.

Мы лічым, што сапраўдныя мусульмане не могуць забіваць людзей, красці, рабаваць, браць чужую маёмасць у другіх людзей, аб чым шмат гаварылася і паказвалася ў сувязі з падзеямі ў Дагестане.

Падрывы дамоў, гібель нявінных людзей — гэта ўчынкі не сапраўдных мусульман. Гэта дзейнічаюць ворагі Ісламa пад шыльдай мусульман. Забойства, тэрарызм, шалёны экстрэмізм не маюць нічога агульнага з Ісламам — хто ўдумліва чытае Святы Каран, Сунну Прарока Мухаммада *(мір яму!)*, той зробіць менавіта такую выснову.

Сапраўдны мусульманін, які кожны дзень па 5 разоў становіцца на малітву перад Усявышнім Аллагам, не можа дапусціць сабе і ў думках якіх-небудзь злых намераў, а тым больш няўгодных Усявышняму дзеянняў.

Мы, мусульмане Беларусі, лічым, што справы рэлігіі, нацыянальнасці і ўзаемаадносіны паміж рэлігіямі і народамі — гэта тэмы вельмі далікатныя, інтымныя, і гаварыць, і пісаць на гэтыя тэмы трэба адпаведна, з усёй адказнасцю і павагай. Тут нельга дапускаць неапраўданых абагульненняў, абвінавачванняў, бо тым самым наносіцца балючы ўдар у сэрцы і душы тысяч і тысяч людзей. А такое пачынае з'яўляцца на старонках беларускіх газет. Асабліва абразлівы артыкул у "Звяздзе" за подпісам Ж. Катляровай, якая прыводзіць чорныя прадказанні астролага В. Кудраўцавай пра нашэсце ісламістаў на ўвесь свет, пра ўваскрэсенне Чынгісхана і пра смерць ісламскай рэлігіі ў 2080 г. У аўтараў гэтых выказванняў няма аніякіх падстаў абагульняць асобныя выступленні тэрарыстаў і вінаваціць у гэтым Іслам *(даўно вядома, што тэрарызм і экстрэмізм не мае пэўнай рэлігіі і нацыянальнасці)*, нельга гаварыць і пра ўваскрэсенне Чынгісхана як старажытнага паслядоўніка Ісламу, таму што ён быў у час сваіх заваёўніцкіх войнаў язычнікам і толькі яго патомкі прынялі Іслам у пачатку XIV стагоддзя. І галоўнае — аб прадказанні канца Ісламу. Мы, мусульмане, лічым,

што рэлігія Іслам найбольш мірная, справядлівая рэлігія, даная Усявышнім для ўсіх народаў, і яе будучыня – толькі ў руках Усявышняга, і ніякія прадказальнікі, чараўнікі, гадалкі, шаманы і іншыя, якія ў Ісламе лічацца, прабачце, прадстаўнікамі ад шайтана *(сатаны)*, і якія маюць ад яго заданне адвярнуць людзей ад Бога і веры, усе яны не змогуць змяніць тое прадвызначэнне, якое ўжо ёсць у Усявышняга па ўсіх пытаннях існавання ўсяго і ўся ў Сусвеце.

І яшчэ. У сувязі з падзеямі ў Дагестане вельмі часта паўтараюць словы вахабізм, вахабіты, ісламскі фундаменталізм. Мусульмане Беларусі непасрэдна не сутыкаліся з прадстаўнікамі такой плыні ў Ісламе, але прачытаўшы энцыклапедычны слоўнік па Ісламу, азнаёміўшыся з даволі поўнай інфармацыяй аб вахабізме ў газеце "Іслам мінбэрэ" *(у перакладзе "Трыбуна Ісламу")* № 8, 1999 г., якая выдаецца ў Маскве, можам сказаць, што ў сваёй сутнасці сапраўдныя паслядоўнікі Мухаммада Абдель Ваххаба, які жыў у першай палове XVIII стагоддзя і які дабіваўся ачышчэння Ісламу ад усяго наноснага, дабаўленага пасля адыходу нашага Прарока ў іншы свет і падкрэсліваў галоўную яго запаведзь аб Адзіным Богу, аб неабходнасці кіравацца выказваннямі з Карана:

*"О вы, хто ўвераваў! Падпарадкоўвайцеся Аллагу і слухайцеся пасланніка і не рабіце пустымі свае дзеянні" (Сура 47, аят 33)*, а таксама выказваннем самога Прарока *(мір яму!)* у сваёй апошняй у яго жыцці хутбе – казанні:

*"Я пакідаю пасля сябе дзве рэчы: Каран і мой асабісты прыклад. Калі вы будзеце іх прытрымлівацца, то не спатыкнецеся".*

Дык вось, паслядоўнікі Ваххаба, або як іх цяпер называюць вахабіты, не нясуць у грамадства, у абшчыну сваім прызывам прытрымлівацца Карана і Сунны Прарока нейкіх небяспечных з'яў ці ўчынкаў. Але, як і ў кожным руху ці ідэі, пачынаюць вылучацца людзі з экстрэмісцкімі поглядамі *(як у нас гавораць – хочуць быць свяцей Папы Рымскага)*, якія ўшчэнт зруйнавалі добрую ідэю. Але яны таксама называюць сябе мусульманамі. І тут мы, мусульмане, атрымліваем зусім не апраўданы ўдар, і ў гэтым не вінаваты Іслам, вінаватыя асобныя людзі, якія, выдаючы сябе за мусульман, дзейнічаюць не па-мусульманску.

Таму вельмі справядлівая рэкамендацыя: пры разглядзе той ці іншай падзеі, таго ці іншага працэсу трэба не спяшацца з абагульненнямі, а задумацца і паглядзець у корань, і ацаніць – а каму гэта выгадна.

Тады кожны прыйдзе да высновы, што не рэлігія *(тая ці іншая)* вінавата, што не які-небудзь цэлы народ *(цяпер у хаду*

*нават такая недарэчная назва — каўказская нацыянальнасць)* вінаваты, а асобныя людзі з асяроддзя шматлікіх рэлігій і народаў, якія існуюць на нашай Зямлі.

А каб менш было канфліктаў, працістаяння, злых учынкаў, забойстваў, крадзяжоў і г.д., трэба сумеснымі намаганнямі ўсіх рэлігій праз сродкі масавай інфармацыі цярпліва і настойліва выхоўваць духоўнасць людзей планеты, давер і павагу адзін да аднаго, згоду, узаемаразуменне і ўзаемадапамогу.

Мусульмане Беларусі выбралі менавіта такі шлях і спадзяюцца на дапамогу Вялікага Аллага ў сваім духоўным адраджэнні.

**І.Александровіч**
*("Народная Воля", 19 лістапада 1999 г.)*

# Віншуем юбіляра!

*У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" з пачуццём вялікай павагі, шчыра і сардэчна віншуюць з

**60-годдзем**
**Шабановіча Абу-Бекіра Юх'янавіча**

Ва ўнікальным мястэчку Іўе, асвечаным святынямі трох міравых рэлігій у сям'і нашчадкаў вялікай сям'і Шабановічаў — Айшы Шабановіч і Ях'і Шабановіча вырасла пяцёра дзяцей — Джаміля, Мустафа, Абу-Бекір, Мацвей, Аміня.

Сярэдні з трох сыноў — Абу-Бекір Шабановіч, вядомы сярод жыхароў Іўя, Мінска, усёй Беларусі, а таксама за яе межамі як прэзідэнт грамадска-культурнага Згуртавання татараў-мусульман Беларусі "Аль-Кітаб".

Месца нараджэння, дзяцінства ў доме каля мячэці, сямейнае выхаванне, шчырыя асабістыя памкненні прывялі яго на шлях грамадскай дзейнасці і ён з дапамогай Аллага быў абраны беларускімі татарамі ў якасці свайго лідэра, прадстаўніка і абаронцы інтарэсаў свайго народа.

Справы Згуртавання – справы яго прэзідэнта, праблемы Згуртавання – яго праблемы. Справы сведчаць: створана Згуртаванне, аб'яднаны татары Беларусі, праведзеныя іх з'езды і сустрэчы, вандроўкі і святы, ажывілася жыццё і ажыла гісторыя народа, нас паважаюць і з намі лічацца.

60 гадоў – столькі пакуль што пражыта шаноўным Абу-Бекірам Шабановічам на гэтай святой зямлі. 600 гадоў – столькі жыве на зямлі Беларусі татарскі народ. Шмат дзесяткаў пакаленняў нарадзілася і сышло, але след іх да гэтай пары глыбокі і заўважны. Ужо чутны крокі маленькага Бекіра Шабановіча – род працягваецца.

Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга!

**Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь.**
**Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб".**

**22 лістапада 1999 г.** **г. Мінск.**



## Татары-казакі на Гродзеншчыне

Паводле перапісу 1989 г., на тэрыторыі Беларусі жыло 12,5 тысячы татар. Узаемаадносіны паміж імі і карэнным насельніцтвам заўсёды ладзіліся, і размаўлялі яны на адной мове – беларускай.

Разам абаранялі дзяржаву ад ворагаў. У тым ліку і татары-казакі, якія размяшчаліся ў розных мясцінах нашай краіны, мелі сваіх атаманаў і падпарадкоўваліся харунжым. Цюркскае слова "казак" азначала ў ардзе людзей, якія, парваўшы сувязь са сваім родам і ўласным князем, займаліся ваеннай справай. Яны заставаліся нібы за рамкамі феадальна-уласніцкай структуры, ардынскай супольнасці. У іх атрадах былі не толькі простыя воіны, але і выхадцы са знаці, царэвічы, якія дзейнічалі самастойна, на свой страх і рызыку. У Попісах войска татарскага 1528–1567 гг. упамінаюцца атаманы, якія ўзначальвалі слаўныя харугвы ласаснянскіх татар-казакаў.

У басейне ракі Ласасянкі і яе прытокаў былі паселішчы ў асноўным хутарскога тыпу, на адну-дзве сям'і. Усе землі ўваходзілі ў Гарадзенскую каралеўскую эканомію. У тыя часы да паселішчаў хутарскога тыпу адносіліся Кульбакаўшчына, Абердоўшчына, Багдашчына, Качаноўшчына, Казакоўшчына, Жыдоўшчына, Ласосна Алінская і іншыя. Недалёка ад ракі Ласасянкі таксама знаходзіліся татарскія вёскі: Дайлідкі на левым прытоку ракі Нурац (*зараз*

*Татаркі)*, вёскі Караліно, Тарусічы, *(цяпер Баранавіцкага сельсавета)* і вёска Гневеншчызна Каробчыцкага сельсавета. Найбольш старымі татарскімі паселішчамі на тэрыторыі сённяшняга Гродзенскага раёна былі вёскі Чортэк і Кадыш на рацэ Чорная Ганча і вёска Малое Дзіміткава непадалёку ад ракі Ласасянкі, а таксама Сяцк *(Сапоцкінскага сельсавета)*.

У архіўных паперах значацца і прозвішчы татар, былых жыхароў паселішчаў: Ізмаіл Сяхновіч, Кульзіман Аразовіч, Кульзіман Касімовіч, Джанчук Фатлыговіч, Асан Бузіновіч і іншыя. Значацца прозвішчы князёў, якія займалі адказныя пасады. У тым ліку мусульманскіх святароў, мулаў былой ласаснянскай мячэці, што паходзілі з прадстаўнікоў княжацкага роду – Фатлагодзічаў і Бузуловічаў.

Пасля князёў ніжэйшыя пасады займалі "уланы", у тым ліку: Ахмет Улан Асанчуковіч, Чумбай Улан Малошыцкі і Дзімідаўскія.

Месціліся яны ў ваколіцах цяперашняй вёскі Ласосна Баранавіцкага сельсавета Гродзенскага павета, у басейне ракі Ласасянкі і яе прытокаў.

У тыя часы ў татар-казакаў адзінкай вымярэння быў "конь", гэта значыць, што надзел зямлі, або маёнтак, з якога ўладальнік, у адпаведнасці з тагачаснымі нормамі, мусіў выстаўляць аднаго конніка. Памеры ўчасткаў не былі дакладна вызначаны, асабліва ў ваколіцах ракі Ласасянкі. Першыя зямельныя дараванні татарам-казакам адносяцца да часоў славутага князя Вітаўта. Зямля давалася татарам агулам, цэлым групам. Тады і ўзніклі татарскія казацкія ваколіцы. Зямельныя надзелы іх даходзілі на захадзе да вёсак Дзіміткава, Мішкенікі, Путна, Саломенкі і Іванаўцы.

Ласаснянскія татары-казакі ў асноўным займаліся земляробствам, конегадоўляй, кушнерствам, агародніцтвам і гадоўляй рыбы, асабліва ласося, а таксама стронгі, якая даўней мела назву лох, адсюль назва рэчак і населеных пунктаў – Лоша, Лаша...

Апрача гэтага, асобныя з татар-казакаў служылі ў тыя часы ў канцылярыях вялікіх князёў талмачамі, татарскімі пісарамі, ездзілі ў Вялікую Арду і Крым з адказнымі даручэннямі.

Але праходзілі гады, змяняліся ўмовы жыцця. І ўжо ў сярэдзіне XVI ст. беларускія татары, у тым ліку і ласаснянскія татары-казакі, пачалі карыстацца іншымі мовамі, у асноўным беларускай і польскай. Яны ўжо не маглі размаўляць з жыхарамі мусульманскіх краін. Адбыліся працэсы моўнай асіміляцыі татар. Гэтаму паспрыялі, галоўным чынам, змяшаныя шлюбы, бо ў многіх татар не было сваіх жанчын, а таму і жаніліся з беларускамі, праўда, з умовай, што будуць мець толькі адну жонку. Але ўсё ж, нягледзячы на гэта, беларускія татары, у тым ліку і татары-казакі ласаснянскія, яшчэ доўгі час зберагалі свае адметныя рысы, не знікалі ў

агульнай масе насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, таму што працягвалі вызнаваць Іслам.

XVII ст. – самы цяжкі перыяд для ласаснянскіх татар. Рост неталерантнасці, актыўны ўдзел татар у войнах першай паловы XVII ст., неўрадлівыя землі па цячэнні ракі Ласасянкі і яе прытокаў, судовыя прэтэнзіі магнатаў і буйной шляхты на татарскія землі – усё гэта выклікала масавы адток татар з раёна ракі Ласасянкі. Большасць з іх эмігрыравала ў Турцыю. Частка татар перасялілася ў іншыя мясціны Вялікага княства Літоўскага, асабліва многа выехала ў г. Слонім.

Раздзел Рэчы Паспалітай і ўвядзенне расійскай адміністрацыі яшчэ больш узмацнілі складаную сітуацыю.

На вялікі жаль, шмат чаго з нацыянальнага здабытку татар загінула. Змрочныя, цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій парушылі ход развіцця татарскай культуры. Многія прадстаўнікі нацыі, баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татар, пакінулі сваю радзіму Беларусь, выехалі ў іншыя краіны. У выніку гэтага і з улікам шматвяковай асіміляцыі з беларусамі татар засталося мала, у тым ліку і ў ваколіцах Ласосны. Тут да 1915 г. дзейнічала татарская мячэць. Было шмат розных татарскіх будынкаў, захоўваліся татарскія могілкі. Зараз усё гэта знікла.

Сёння, калі пачаўся працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, нельга мірыцца з забыццём сваёй духоўнай спадчыны. Абавязак кожнага грамадзяніна – захаваць і зберагчы для нашчадкаў тое, што ўцалела.

Вясной 1996 г. мусульманская суполка Гародні запланавала распачаць у лесапарку Румлёва будаўніцтва мячэці. Узнікае пытанне, а чаму ў Румлёве, а не ў Ласосне пад Гародняй, дзе да 1915 г. і была мячэць.

Я, як краязнавец, член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, лічу мэтазгодным аб'явіць ваколіцы Ласосны (*пойму ракі Ласасянкі і яе прытокаў*) гістарычным запаведнікам былой татаршчыны і ўзяць пад ахову дзяржавы. Выказваю меркаванне пабудаваць у гэтай гістарычнай зоне мячэць, школу, музей, гасцёўню, нацыянальную кавярню і іншыя ўстановы беларускіх татар.

**Апанас Цыхун,**
**(Газета "Голас Радзімы", 17.11. 1999 г., № 46)**



# Новае даследаванне па гісторыі татарскага народа

У 1998 г. выйшла кніга вядомага польскага даследчыка Яна Тышкевіча "Z historii tataryw polskich. 1794–1944. Zbior szkicyw z aneksami rydlonymi" *(Puitusk, 1998)*. Яна як бы храналагічна працягвае, а па некаторых аспектах і паўтарае, другую кнігу таго ж аўтара "Tatarzy na Litwie i w Polsce" *(Warszawa, 1989)*. Новая кніга складаецца з 11 раздзелаў, якія дапоўнены дакументамі, спісам важнейшай літаратуры па гісторыі татарскага народа, а таксама ілюстрацыямі, некаторыя з якіх з прыватнага архіва аўтара.

У адрозненне ад першай кнігі новая кніга, хаця і мае раздзелы, уяўляе сабой хутчэй зборнік артыкулаў *(аб чым у прадмове піша і сам аўтар)*, чым манаграфічнае даследванне. І таму, як і ўсялякі зборнік не пазбягае паўтораў па шэрагу закранутых аспектаў. Кніга ахоплівае значна больш перыяд, чым гэта абумоўлена аўтарам у загалоўку і разглядае гісторыю не толькі польскіх, але і літоўскіх татар. І калі раздзел І ахоплівае перыяд ад XIV да XVIII ст.ст., які расказвае аб абставінах з'яўлення і рассялення татар на тэрыторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, то пераважная частка іншых раздзелаў прысвечана ўдзелу татар у палітычных падзеях краю. Сярод якіх Тарговіцкая канфедэрацыя 1792 г., паўстанне 1794 г., вайна 1812 г., закрануты падзеі І сусветнай вайны і рэвалюцыі 1917 г., ІІ сусветнай вайны. І гэта зразумела, так як традыцыйнай для татар была прафесія ваеннага. Аўтар і даследуе ў некаторых раздзелах удзел татар у палітычных падзеях праз біяграфіі генерала Юзафа Беляка, капітана Самуэля Улана, маёра Мустафы Ахматовіча, генерала Мацея Сулькевіча.

Польска-літоўскія татары прымалі актыўны ўдзел у палітычным жыцці не толькі сваёй тэрыторыі, але і ў Пецярбургу, Крыме. З вялікай цікавасцю знаёмімся з біяграфіяй рэдактара перыядычнага выдання "Rocznik Tatarski" – Ляона Крычынскага. Менавіта ў гэтым выданні было надрукавана шмат цікавых матэрыялаў і даследванняў па гісторыі татарскага народа.

За апошняе дзесяцігоддзе XX ст. шмат што зроблена ў гэтым накірунку і ў беларускай гістарыяграфіі. Сярод кніг можна назваць

наступныя кнігі: "Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць" *(аўт. С. Думін і І. Канапацкі. Мн., 1993)*, "Канфесіі на Беларусі" *(аўт. В. Грыгор'ева, У. Завальнюк, У. Навіцкі, А. Філатава. Мн., 1998)*, зборнікі матэрыялаў міжнародных навукова-практычных канферэнцый, выдадзеныя ў 1995, 1996 і 1999 гг., часопіс "Байрам". Тым не менш новымі з'ўляюцца матэрыялы, прысвечаныя перыяду 1917–1944 гг. *(раздзелы VIII-XI)*. У некаторай ступені яны маюць дачыненне і да тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад ІІ Рэчы Паспалітай. На мой погляд, менавіта гэты перыяд менш за ўсё распрацаваны ў нашай гістарыяграфіі.

Новае даследванне Яна Тышкевіча напісана на высокім навуковым узроўні, выкарыстана шырокае кола архіўных і друкаваных крыніц, шэраг з якіх недаступны беларускім гісторыкам і таму вельмі цікавы для іх.

**А.М. Філатава**



## О союзе татарской молодежи в период фашистской окупации Беларуси

В последнее время появляется всё больше публикаций о событиях войны 1941–1945 гг., в которых делается попытка установить истину и "полную правду" в отношении сложных исторических событий и фактов периода фашистской оккупации Беларуси. В результате анализа открываемых в последние годы архивных материалов делается попытка рассмотреть истоки и причины появления и деятельности молодёжных организаций в условиях оккупационного режима в Беларуси, проведения ими молодёжной политики, а также участия молодёжи в решении политических, военных, экономических и других задач оккупационных властей.

В этой связи интересной представляется появившаяся недавно книга А. Кавалені "Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941–1944", Мінск, 1999. В книге автор рассматривает сложную проблему организации и деятельности в период фашистской оккупации Беларуси Союза белорусской молодёжи *(СБМ)*, Союза русской

молодёжи *(СРМ)*, Союза татарской молодёжи *(СТМ)* и Союза борьбы против большевизма *(СБСБ)*.

Я, как представитель этнического татарского меньшинства на Беларуси, не являясь ни историком, ни литератором, однако все годы фашистской оккупации *(1941–1944)* прожил на территории Западной Беларуси в крестьянской семье в г. Клецке и вполне сознательно *(в возрасте 17–20 лет)* ощутил и испытал в деталях все тяготы оккупации, все политические и экономические действия оккупационных властей в отношении местного населения, в том числе и молодого поколения. Поэтому хотелось бы высказать свои соображения по некоторым вопросам и событиям, связанных с СТМ, которые рассмотрены в этой книге. Всё это хочу показать на примере жизни парафии мусульман г. Клецка, которая была в довоенное время если не самой большой, то одной из крупнейших татарских диаспор в Беларуси и Литве.

Какие общие впечатления от прочитанной книги? Их два:

1. Автор весьма добросовестно перелопатил огромнейшее количество литературы военного и послевоенного времени, издававшейся как в Советском Союзе, так и на временно оккупированной территории Беларуси, а также архивных материалов – Национального архива Беларуси, КГБ и др., детально систематизировал и зареферировал материал, касающийся молодёжной тематики в Беларуси и опубликовал его в духе старого доперестроечного времени. В книге содержатся элементы догматизма, узости и односторонности, идеологии шапкозакидательства и победного шествия коммунизма. Большой материал критически не рассмотрен, не "пропущен через себя", в результате не сопоставлен с реалиями той ситуации, тех условий и обстановки, которые сложились на Беларуси в предвоенное время и в начале военных лет 1941–1944 гг. Например, в первом параграфе второй главы *(2.1)* содержатся целые страницы реферированной литературы о комсомоле, комсомольцах и школьниках Беларуси, которые якобы в первые дни войны массово и организованно под руководством Партии и ЦК комсомола встали на защиту нашей Родины и т.д. и т.п. Ничего подобного не было, а была сплошная паника, когда всё военное и гражданское руководство растерялось, началось сплошное дезертирство и тысячи командиров-офицеров и рядовых солдат, оставив тяжёлое вооружение противнику, неорганизованно ночью бежали лесными тропами

и пробирались на Восток. Причём, если военные с ручным оружием могли проходить через старую границу *(польско-советскую)*, то гражданское население, включая и прибывший с СССР партийный и государственный аппарат служащих, не смогли свободно пересечь границу, так как принимались пограничниками и работниками НКВД за польских шпионов. Считаю, что большая часть литературы цитируемого параграфа книги является самоотчётом комсомольских организаций о своей "активной" деятельности в период войны и не заслуживает серьёзного внимания, а чтение этого параграфа вызывает у читателей, реально переживших то время, только улыбку. Поэтому утверждение автора книги *(стр. 39)* о том, что *"нягледзячы на гэту акалічнасць, летам 1941 г. на захопленай германскімі войскамі тэрыторыі Беларусі атрымаў распаўсюджанне стыхійны рух моладзі супраць акупантаў..."* и дальше по тексту книги на стр. 39 и 40 звучит популистски и не соответствует действительности.

2. Мне представляется, что название книги не совсем соответствует её содержанию, так как книга посвящена детальному рассмотрению Союза белорусской молодёжи, его основанию, организационным принципам и политической сущности этой молодёжной организации. Что касается других организаций, таких, как Союз татарской молодёжи, Союз русской молодёжи и др., то они рассматриваются весьма поверхностно, несравненно уже и меньше, чем вопросы СБМ. Это вполне объяснимо, если эти последние союзы рассматривать с точки зрения их реального существования и их деятельности в период оккупации. В действительности, никаких практических действий со стороны этих союзов не было и ставить их на один уровень с СБМ неверно и по крайней мере несерьёзно. Поэтому и публикаций об этих трёх союзах практически не было. Об этом указывает сам автор на стр. 13, что *"аб заснаванні Саюза татарскай моладзі, Саюза рускай моладзі, Саюза барацьбы супраць бальшавізма, іх ролі і месцы ў маладзёжным асяроддзі, навуковых публікацый да пачатку 90-х гадоў наогул не існавала"*. Поэтому на стр. 15 книги автор пишет, что разгляд і асвятленне гістарычнага вопыту дзейнасці СТМ, СРМ, СБСБ ажыццяўляліся на падставе дакументаў і матэрыялаў, змешчаных у нац. архіве, у фондах Бел. дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і часткова ў архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі РБ".

И действительно так, не существовало публикаций потому, что не существовало в реальной жизни Союза татарской молодёжи. Этот союз существовал номинально только в умах отдельных, очень немногих, оторвавшихся от народа представителей татарского муфтиата в г. Вильнюсе, а также после освобождения Западной Беларуси Советской Армией в головах сотрудников Госбезопасности, которые, выдавая желаемое за действительное, утверждали, что в городах Беларуси с татарской диаспорой в период оккупации существовала разветвлённая сеть молодёжной профашистски настроенной татарской организации, которая представляла большую опасность советскому государству. Информацию о деятельности СТМ автор книги, повидимому, получил из архива КГБ по материалам допроса номинально существовавшего начальника штаба СТМ Якубовского Х., который был арестован органами НКВД в конце 1944 г. и осуждён на 5 лет лишения свободы. В действительности среди татарских диаспор гг. Клецка, Ляховичи, Мир, Орда, Иваново и др. об этом Союзе в течение всех трёх лет оккупации никто и ничего не знал и не слышал ни о его создании, политической направленности, ни о его деятельности.

Да, Якубовский Х. неоднократно приезжал в 1943–1944 гг. вместе с женой в г.Клецк, но не для агитации и организации СТМ, а посещал родителей своей жены Тамары Богушевич, на которой был женат с 1943 г. При этом только в узком кругу своей семьи иногда высказывал, как крамольную, мысль об объединении татар в какую-либо татарскую организацию, но он был очень осторожным и здравомыслящим человеком и, зная о ситуации в 1944 г. на советско-германском фронте, вполне осознавал ту опасность, которая грозила ему после прихода Красной Армии в случае реального создания СТМ.

Вспоминая о временах более чем 50-летней давности, а с ними о прогерманских союзах молодёжи в период оккупации Беларуси, следует подчеркнуть, что СТМ и СБМ по своему значению и потенциальной возможности – это две разновесовые и разновеликие категории, поэтому они не могут сравниваться друг с другом. Существовавшие в довоенное время и в период фашистской оккупации политическая, демографическая и социально-экономическая ситуации были такими, что говорить о создании татарской политической молодёжной организации на территории Беларуси вряд ли

возможно. В подтверждение этому следует указать на два, на мой взгляд, чрезвычайно важных обстоятельства:

1. В период оккупации Беларуси отсутствовала национальная идея, за которую можно было агитировать, поднимать татарскую молодёжь и вести её на войну. О такой идее ничего не говорит автор книги и этой идеи не было у муфтиата мусульман Беларуси и муфтия Я. Шинкевича, ни у его ближайшего окружения, у т. наз. элиты в г. Вильнюсе. За что и за кого предполагалось идти воевать? За новую Европу и великую Германию в ней? Это было слишком абстрактное понятие для микромира татар Беларуси. За буржуазную Польшу, в которой жили татары до сентября 1939 г.? Так в 1941–1944 гг. её уже не было, и её разбили те же фашисты, на стороне которых предполагалось быть Союзу татарской молодёжи. Эта идея татарам и их молодёжи была не очень близкой и понятной, хотя муфтий и его окружение, видимо, её поддерживали, так как они были на службе у польского государства и некоторые из них жили безбедно. Идти воевать за Крым? Это также очередная фантазия, так как татарская молодёжь, о которой идёт речь, родилась и жила в Польше, не знала крымского языка, ничего не знала ни о Крыме, ни о крымских обычаях. Автор книги указывает, что СТМ было создано под названием "Бирлик", что в переводе означает злучэнне, объединение. Спрашивается, объединение кого с кем? Западной Беларуси с Восточной? Вряд ли, потому что к началу войны 1941 г. этому объединению было всего полтора года, за которые татары не смогли ощутить особых достоинств объединённого советского государства и поэтому особого патриотизма к этому государству у них в то время ещё не было. Поэтому все отмеченные в книге организационные попытки создания Союза татарской молодёжи ложились на неподготовленную почву и встречали полную инертность со стороны этой молодёжи.

Среди инициаторов создания СТМ, как следует из книги, был муфтий татар Беларуси Я. Шинкевич. Лично мне не довелось его видеть, но по рассказам татар старшего поколения могу подтвердить, что это был далёкий от политики, глубоко верующий мусульманин, в довоенное время совершивший Хадж в Мекку и Медину, имел высшее духовное и светское образование, которые он получил ещё в начале 20-х годов нашего столетия. Вместе со своим ближайшим окружением – муфтиатом жил и работал в

г. Вильнюсе. Они были далеки от основной массы татар-мусульман Беларуси. Достаточно сказать, что за весь довоенный период *(1926–1939 гг.)* и в военное время муфтий ни одного раза не был в таких татарских диаспорах, как Клецк, Ляховичи, Осмолово, Мир, хотя в этих местах существовали татарские мечети и обслуживающие их муллы. Ко времени фашистской оккупации число этой татарской элиты резко сократилось, т.к. в период 1939–1941 гг. многие из них *(братья Кричинские, Ахматович, Туган-Барановский, Воронович и др.)* были репрессированы Советской властью, а некоторые погибли. Считаю, что цитируемые автором книги выступления в период оккупации Я. Шинкевича не были результатом его внутреннего убеждения, а больше совершались по долгу его службы.

2. Татарская этническая общность Беларуси не имела той основы и фундамента для создания организаций типа СТМ, что вполне очевидно из количества проживавших тогда и проживающих сейчас татар на территории Беларуси и Литвы. Всего до начала войны в Западной Беларуси и Литве проживало 6 тысяч татар, рассредоточенных более чем в 20 населенных пунктах. Часть из них после начала войны осталась в Литве и поэтому это количество с учётом Восточной Беларуси сохранилось на уровне 5–6 тысяч. Если у 6–8 миллионного белорусского народа Союз белорусской молодёжи насчитывал, по данным автора книги, 12–15 тысяч человек, то исходя из количественного соотношения татар и Белорусов СТМ должна была состоять из 12–15 человек. Можно ли всерьёз говорить об этой политической организации?

Всё это татарское население было занято тяжёлым физическим трудом в малоземельном сельском хозяйстве, огородничестве и гарбарстве. Для выживания и сохранения своих многодетных семей все члены семьи, начиная с детского возраста, должны были тяжело работать от темна до темна без использования какой-либо техники и в тяжёлых антисанитарных условиях, особенно в гарбарстве при выработке кож. Практически всё взрослое население и большинство молодёжи вообще не имели никакого образования, даже не умели читать и писать. Большинство из них, в том числе и муллы при мечетях, были малограмотными и в отношении мусульманской религии, из-за чего национальное самосознание их было весьма низким, а патриотическое воспитание у них в условиях

проживания в Польше также отсутствовало. Могли ли эти татары всерьёз заниматься политикой и организацией каких-то союзов? Нет, нет и ещё раз нет. Это была инетртная малограмотная и в политическом отношении совершенно аморфная масса, для которой все жизненные интересы были сосредоточены только на выживании. Поэтому редкие посещения татарских диаспор отдельными представителями интеллигенции и муфтиата из Вильнюса с намерением оживить политическую и культурную жизнь не находили никакой поддержки. Так, посетивший Клецк в 1944 г. указанный в книге *(стр. 165)* А.Смайкевич в качестве муллы г. Минска пытался завербовать хотя бы несколько татар в отряд охраны генерального комиссариата в Минске, однако ни один мужчина молодого и среднего возраста не пошёл на такую провокацию. Клецкие татары были очень осторожными в политике, категорически отказывались и не принимали никакого участия в военных и правоохранительных организациях в течение всех периодов смены власти в Беларуси *(в 1939, 1941, 1944 гг.)*.

Таким образом, реальной базы для создания татарской молодёжной организации на основе малочисленных татарских диаспор Беларуси не существовало. Возможно, это явилось одной из основных причин такого длительного процесса организации СТМ. Как пишет автор книги *(стр. 165)* "перамовы муфція Я.Шынкевіча аб арганізацыі Саюза татарскай моладзі з Генеральным камісарам Беларусі пачаліся з лета 1942 г. Аднак выказаныя ім прапановы не выклікалі асаблівага ўражання ў германскага кіраўніцтва". Были и другие весьма важные причины, об одной из них автор книги на стр. 165 пишет, что "дзяржаўная расавая нацысцкая ідэалогія перашкаджала акупацыйным уладам наладзіць цеснае супрацоўніцтва з прадстаўнікамі татар. Гэтыя ўлады не лічылі татар кроўнымі родзічамі арыйцаў". И дальше на стр 168 автор книги сообщает, что настойлівыя звароты муфція Я. Шынкевіча дазволіць разбудову маладзежнага мусульманскага саюза ў Генеральная акрузе далі станоўчыя вынікі толькі ў сакавіку 1944 г., калі пачалася падрыхтоўчая праца, якая дала свае вынікі: у літоўскім градзе Оліта 19 мая 1944 г. адбылося ганаровае адкрыццё арганізацыі Саюз татарскай моладзі" *(стр. 170)*. То есть указанный Союз получил своё официальное признание за 1,5 месяца до освобождения Беларуси от немецко-фашистских оккупантов.

С учётом изложенного выше, можно ли всерьёз принимать утверждения автора книги о том, что "шла работа по созданию в местах компактного проживания татар-мусульман организационных центров-комитетов, которых в конце февраля 1944г. было три: Минский, Клецкий и Ляховичский", и как будто "у камітэтах праводзілася работа па выяўленню і ўліку мусульманскага насельніцтва, яго арганізацыі на выкананне ваенна-гаспадарчых планаў германскага рэйха" *(стр 167)*.

Мне не хотелось бы точно утверждать о работе Минского татарского комитета, т.к. в Минске в то время я не был, однако по рассказу покойного мусульманина из Минска Ш. Раецкого указанный в книге его брат Р. Раецкий посетил в начале 1944 г. только один раз татарское собрание в Минске, за что потом после освобождения Минска в конце 1944 г. был осуждён на 5 лет лишения свободы. Что касается Клецкого и Ляховичского татарских комитетов, то совершенно определённо могу сказать, что в Клецкой диаспоре, в которой проживало 35 татарских семей с общим количеством 220 человек, а в Ляховичской ещё вдвое меньше, и где все события становятся тотчас же известны всем, не существовало никаких организационных центров-комитетов, а так называемые члены этих комитетов, указанные автором книги, сами не знали даже об этом, в Клецке не собирались никакие собрания, не велось никакой организационной и подготовительной работы. Это всё результаты допросов мнимых руководителей СТМ, в том числе "начальника штаба" Х. Якубовского, проводившихся после освобождения Беларуси в конце 1944 г. по методам недалёких тому времени предвоенных лет 1937–1938.

Так идея о Союзе татарской молодёжи, рождённая в умах людей, далёких от реальной жизни и татарского народа, и попавшая затем в архивы преступной сталинской службы безопасности, явилась тем "материалом", на основе которого современные историки пытаются установить "истину и полную правду" в новейшей истории.

**Х.М. Александрович**



# Дзмітры Ліхачоў – сумленне Расіі

Такімі словамі казалі аб Д.С. Ліхачове, сыйшоўшым у іншы свет 30 верасня 1999 г. пасля дзевяноста двух гадоў зямнога жыцця. Апошняе сумленне Расіі – казалі расіяне, успамінаючы пры тым пакінуўшага гэты свет раней Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава. Людзі такога кшталту прыходзяць у свет ці не раз у тысячу гадоў. Чалавецтва імкліва рушыць уперад, а іх усё меней і яны ўсё больш неабходныя. І аглядаемся мы на іх сышоўшых, каб было на кім вымяраць чалавечыя якасці і духоўныя каштоўнасці.

Д.С. Ліхачоў быў пасланы людзям амаль на цэлы век. У любові і даверы да вялікага мысліцеля, вучонага, патрыёта сыходзіліся прадстаўнікі розных узростаў, прафесій і рангаў. Яго шанавалі і паважалі, як ні цяжка цяпер уявіць, людзі простыя і ўладутрымаючыя. Яго ціхі голас гучаў звонам. Не маючы высокіх пасад, працуючы ў Пушкінскім доме, ён быў вядучым аўтарытэтам у галіне культуры, заснавальнікам гісторыі старажытнай рускай літаратуры. Яго жыццё сведчыць, што інтэлігент сваім сумленнем, інтэлектам, мужнасцю можа ўздзейнічаць на жыццё грамадства ў цэлым, на грамадскую думку.

Жыццё Д.С. Ліхачова было нялёгкім, няпростым. Не атрымаўшы дыплома аб заканчэнні універсітэта, ён трапіў у кіпцюры КДБ. 9 месяцаў арышту, 5 гадоў савецкіх лагераў на Салаўках. Другія універсітэты далі сваю адукацыю. Але перамены ў жыцці Расіі змянілі стаўленне афіцыйных улад да вучонага: пераследаванне былымі ўладамі і сустрэчы дзеля атрымання парады з дзяржаўнымі кіраўнікамі самых высокіх узроўняў часоў пачатку дэмакратычнай перабудовы грамадства, маўклівая ў пэўнай ступені спадчына ў паўтары тысячы навуковых прац і на ўсю краіну і за яе межы жывы голас з дэпутацкай трыбуны, дзяржаўныя ўзнагароды і поціск яго рукі як узнагарода.

Чалавек, які перасягнуў межы часу, межы дзяржавы і межы нацыянальныя. Ён на ўсе часы і ён агульначалавечы. Але ён агульначалавечы ад свайго, ад сваіх каранёў і ад вытокаў. І таму ён настаўнік. Наш і ваш заступнік перад нашым агульным Богам. Спадзяёмся, што яго думкі з Вышыні пранікнуць у сэрцы людзей і навучаць "вялікіх" паважаць "меншых", кожнага спасцігнуць скарбы свайго народу і прынесці іх у агульную скарбонку, каб мець права карыстацца яе здабыткамі.

**Р. Александровіч**



*Майдан, што ў перакладзе з цюркскай азначае "плошча", "базар". Аб асіміляцыі прышэльцаў Чынгізхана на Палессі сведчаць і шырока распаўсюджаныя ў Лунінцы і раёне прозвішчы Бут-Гусаім, Скіба, Ліч, Біліба, Кучук...".*

Пасля гэтай цікаўнай і змястоўнай кнігі, каб больш дакладна даведацца пра слова "майдан", узяў гістарычныя, водныя, архітэктурныя, археалагічна-нумізматычныя ды іншыя энцыклапедыі Беларусі, але нічога адтуль не мог выбраць. Пасля гэтага паклаў на свой стол вялікі стос розных слоўнікаў ад ваеннага да матэматычнага, але таксама ніякіх вынікаў для сябе не меў.

І толькі два слоўнікі расказалі мне, якімі багатымі адценнямі і значэннямі, красой валодае прывандраваўшае да нас слова "майдан" разам са шматлікімі выхадцамі, прадстаўнікамі, палоннымі, купцамі, падарожнікамі са шматлікіх цюркскіх плямёнаў з Волгі, Дону, Крыму, якія зараз агульна завуцца беларускімі татарамі. Разам з сабою яны прынеслі не толькі моўную культуру, традыцыі свае, некалькі рэлігій і яшчэ нешта такое незвычайнае, што і зараз найбольш цэментуе наш беларускі народ. "Кінуўшы" ў тутэйшыя моўныя гушчары залаты россып сваіх слоў, а іх, як аказалася, некалькі тысяч, беларускія татары разам з тым і зрабілі мову той зямлі, дзе атабарыліся-аселі, сваёй, роднай...

Першы з гэтых друкаў – "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996). Са старонкі 328 гэтага выдання мы выпісваем:

*"**МАЙДАН**, -а, мн. -ы, аў, м. (разм.). Базар, базарная плошча (на поўдні Расіі, на Украіне). II прым. майданны, -ая, ае".*

Вось так псеўдаарыгінальна і псеўданавукова трактуе гэтае слова тлумачальны фаліянт, як бачна, ён адмаўляе беларускаму народу ў праве ўласнасці мець яго, як роднае, бо адносіць яго да Расіі і Украіны, а як бачна з кнігі "Лунінец", гэта зусім не так. Больш таго, мы можам прама сказаць, што "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" пагардліва адносіцца да слова "майдан", бо яно, мабыць, толькі роднае для самога беларускага народу, а не для літаратараў і тых жа вучоных-моваведаў. Што гэта так, найярчэй гаворыць кніга Івана Якаўлевіча Яшкіна "Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія" *(Мінск, "Навука і тэхніка", 1971)*. У гэтым цікавым выданні падаюцца мясцовыя беларускія геаграфічныя назвы, якія вызначаюць багатую марфалогію зямлі, гідралагічныя асаблівасці вадаёмаў, раслінныя асацыяцыі і ландшафт. Вялікай увагай Івана Якаўлевіча карыстаецца і слова "майдан". Але крышачку аб тым, як папала гэтая кніга да мяне.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, знакаміты беларускі энцыклапедыст Якуб (Якаў) Адамавіч Якубоўскі, ведаючы маю прагу і цікаўнасць да тапанімічных назваў, у адно з маіх наведванняў яго гасціннай кватэры прапанаваў мне кнігу Яшкіна. Дома я разгарнуў гэтае выданне і пабачыў незвычайна цёплыя словы:

*"Дарагому Якаву Адамавічу Якубоўскаму з пажаданнем добрых поспехаў! Аўтар. 21 жніўня 1978 г. Подпіс"*

Гэты даведачны слоўнік шмат мне даў у пазнанні народнай тапанімікі, але перад гэтым, канешне, быў вельмі здзіўлены той агромністай працай, якую прарабіў, здзейсніў шчыры сябар Якуба Адамавіча. Але адкрыем гэтую кнігу на літару "М" на старонцы 111 і там пабачым зацікавіўшае нас слова "майдан", а перад ім ідуць, шпарка крочаць, бягуць такія нашыя знаёмцы, як "магдан", "магіла", "магура", "маёнтак".

Якое ж першае вызначэнне дае беларускаму слову "майдан", якое мае цюркскае паходжанне, Іван Якаўлевіч Яшкін? Учытаемся ў яго:

*"1. Абгароджанае або неабгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе, каля дома" (Брэсц. ДАБМ, к. 232).*

Расшыфруем скарачэнні: "Брэсц. ДАБМ, к. 232" – гэта Берасцейшчына, Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы. Даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. Мінск, 1963, карта.

А вось другое тлумачэнне "майдана".

*"2. Месца, дзе знаходзіліся прамысловыя збудаванні лясных або рыбных промыслаў (Стол.), дзе выганялі дзёгаць і выпальвалі кавальскі вугаль (Бых. Рам. 1912, З. Краснап. Бяльк., Слаўг.); яма, дзе гналі смалу (Мін. губ. Зял. 1864, 119). Тое ж* ***майданак*** *(раён Белавежскай пушчы, Гродз.)."*

Адразу ж пазначым скарачэнні, далей іх будзем даваць проста так: Столінскі раён, Быхаўскі раён, "Рам. 1912" – Е.Р. Романов. Белорусский сборник, вып. 8–9. Вільна, 1912, Краснапольскі раён, "Бяльк." – І.К. Бялькевіч. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны, Мінск, 1970, Слаўгародскі раён, Мінская губерня, "Зял" – И. Зеленский. Минская губерния. Материалы для географии и статистики России, ч. I и II. СПб, 1864, Гродзеншчына).

Паціху мы дабраліся і да трэцяга тлумачэння, якое вышукаў руплівец Яшкін:

*"3. Шырокая прастора; вялікая гала (Стол.)."*

Столінскі раён.

Чытаем усе гэтыя здабыткі ад слова "майдан" і нават адчуваем водар, пах роднай зямлі.

А вось і чацвёрты пункт:

*"4. Незабудаванае месца ў населеных пунктах, дзе збіраецца народ, дзе адбываецца гандаль; зборны пункт; узвышанае месца, узгорак (Пінскі пав. Булг. 196)."*

Пінскі павет, "Булг" – Д.Г.Булгаковский. Пинчуки. Этнографический сборник. СПб, 1890.

Дык і гэта яшчэ не ўсё! Прачытаем далей тое, што дбайна вышукаў даследчык Іван Якаўлевіч Яшкін:

*"5. Вялікі абшар ворнай зямлі (Нясв.)."*

Нясвіжскі раён.

Бацюхна! У падараванай Якубу (Якаву) Адамавічу Якубоўскаму ёсць і шостае "вымярэнне":

*"6. Зарослы хмызняком роў (Міласл. Бяльк.)."*

Мілаславіцкі, "Бяльк." – І.К.Бялькевіч. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны, Мінск, 1970.

Ну, а як такое слова, як майдан, не будзе мець шчаслівай лічбы "сем"! Дык пад ёй даюцца такія тлумачэнні:

*"7. Вялікі двор у маёнтку (Ваўк. Сцяшк.), в.Майдан Бых. (Рам. 1912.3), ур.Майдан (лес) каля в.Беражцы Жытк., ур.Майдан (поле на месцы асушанага балота) каля в.Чарнякоўка (Слаўг.)."*

Ваўкавыскі раён, "Сцяшк." – Т.Ф.Сцяшковіч. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР. Гродна, 1959, Быхаўскі раён, "Рам. 1912, 3" – Е.Р.Романов. Белорусский сборник, вып. 8-9. Вильна, 1912, Жыткавіцкі раён, Слаўгарадскі раён.

Што і гаварыць, калі "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" ідзе не ад народных гаворак, а з задавальненнем бэрэ штучныя і сінтэтычныя назвы, дык аб чым тады гаварыць?!

Здаўна, з сівой мінуўшчыны прынеслі продкі беларускіх татараў з сабой такое багатае і шматзначнае слова, як "майдан", каб назаўсёды ўсталявацца, абсталявацца і застацца на палетках беларускамоўных палёў і так паглыбіцца ў іх нетры, каб зазіхацець сапраўдным і каштоўным брыльянтам! Дык мо ведаў Іван Якаўлевіч Яшкін, каму ён зрабіў гэтакі дзівосны падарунак! Канешне, ён ведаў, бо беларускі татарын Якуб *(Якаў)* Адамавіч Якубоўскі, калі так можна сказаць, па эстафеце перадаў гэтую цудадзейную кнігу. Дык, Іван Якаўлевіч, вялікі і шчыры Вам дзякуй за гэтае ад усіх нас: і беларускіх татараў, і беларусаў, іх сяброў і прыхільнікаў!

**М.Маліноўскі**



## Як і дзе лічаць

Беларускія татары, жывучы ў Беларусі, як і беларусы, пачынаюць адлічэнне дзён тыдня пасля нядзелі, пачатак вядзецца з панядзелка, потым ідзе аўторак і ўсе іншыя. Таму панядзелак – першы дзень тыдня, ён ідзе пасля нядзелі. Але на захадзе *(у бальшыні краінаў –* ***М.М.****)* лік дзён тыдня ідзе ад суботы. У сувязі з гэтым прачытаем у Евангеллі ад Матфея (XXVIII, 1): *"Па сканчэнні жа суботы на досвітку першага дня тыдня, прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець дамавіну".*

У арабскім жа свеце адлічэнне тыдня ідзе ад суботы. У мове гэтага народа нашым дням з нядзелі па чацвер адпавядаюць "дзень адзін", "дзень два" і г.д. да "дня пятага".

Пятніца (Джум'а) у мусульманскіх краінах адпавядае **"дзень злучэння"** – свяшчэнны для вернікаў Іслама дзень. Гэты ж дзень асаблівы і святы і для беларускіх татараў, а далей за ім ідзе субота – суботні дзень.

Для цікаўных прывядзём усе дні тыдня, як вядзе яго беларускі народ, а побач арабскія назвы:

Панядзелак – ал-йаума аль-існейн;
Аўторак – ал-йаума ас-салага;
Серада – ал-йаума аль-арба'а;
Чацвер – ал-йаума аль-хаміс;
Пятніца – **ал-йаума аль-джум'а**;
Субота – ал-йаума ас-сабт;
Нядзеля – ал-йаума аль-ахад.

**М.Маліноўскі**



## Трыумфальнае музычнае шэсце па Літве Дзінары Мазітавай

*... іншы раз дараванне аднаго чалавека здольна зрабіць больш, чым вялікае мноства рук.*

***Палібій*** *(нар. каля 201 – памёр каля 120 г. да н.э.) – старажытны грэцкі гісторык.*

Ёсць людзі, з нараджэння адзначаныя пячаткамі таленту. Нешта такое атрымалася і ў сям'і Святланы Афанасьеўны і Рыма Ахметнабіевіча Мазітавых, калі нарадзілася ў іх немаўля, якое атрымала дзівоснае мілагучнае імя Дзінара. А адбылася гэта падзея для Беларусі ў старажытным беларускім горадзе Ліда, якая атрымала свой назоў ад італьянскіх дойлідаў і дзе з сівой мінуўшчыны шчыра і па-сяброўску жылі беларусы, татары, палякі, літоўцы, рускія, яўрэі, цыгане, немцы... І кожны з іх нешта сваё і адметнае ўнёс у жыццё сваіх народаў і ў скарбніцу горада ды краіны.

Так атрымалася і з музычным вундэркіндам з берагоў ракі Ліды-Лідзей-Лідзейкі, яна, гэта дапытлівая Дзінара з малечы адчула гукі гэтай зямлі, гукі свайго народу, якія шмат стагоддзяў таму назад прыйшлі цераз тысячы кіламетраў з Прыволжа, Дону і Крыму, каб назаўсёды застацца на ёй і ўкрасаваць яе. Ды і гэта не ўсё, маладое дараванне пачула мелодыі і іншых народаў, такіх як, напрыклад, італьянскага, дацкага, і напісала такія творы, якія сёння лічацца гонарам і надзвычайным здабыткам Беларусі!

Дзівосная Мазітава па-майстэрску грае на піяніна, стварае непаўторныя оперы, арыгінальныя балеты, незвычайныя музычныя піша вершы, у 13 год стварыла Гімн беларускіх татараў на тэкст Якуба *(Якава)* Адамавіча Якубоўскага.

Майстэрства юнага таленту аднолькава прыйшлося да смаку і густу што на Беларусі, што ў Расіі, што... Але аб гэтым крышачку болей, бо ў суседняй Літве Дзінара Мазітава гасцявала і выступала з сваімі творамі 5 дзён і ўсюды яе трыумфальна прыймалі і выказвалі ёй свае самыя шчырыя словы ўдзячнасці. Адзначым для сябе, што яна і раней была ў гэтай рэспубліцы ў Каунасе па запрашэнні кампазітара Г.Куправічуса, яна з ім пазнаёмілася ў Санкт-Пецярбургу, гэты цудадзейны музыка за нядзелю гасцявання шмат чаго даў у тэхніцы музыцыравання і ў стварэнні новых твораў.

Месцы, дзе была і выступала Дзінара Мазітава, мы толькі абазначым, бо немагчыма абняць неабдымнае...

Запрасілі да сябе ў госці юны талент з аўтарскімі канцэртамі дырэктар Цэнтра Культурнай дзейнасці Усходняй Літвы гаспадыня Бірутэ Кургонене і Суполка літоўскіх татараў Вільнюскага краю.

Першы трыумфальны выступ Дзінары Мазітавай адбыўся ў Вільнюскай ратушы *(Палац працаўнікоў мастацтва Літвы)*. На гэты незвычайны канцэрт-цуд прыбылі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Літве гаспадар Алтан Караманоглу, Генеральны дырэктар дэпартамента пры ўрадзе Літвы Ремічыйус Мотузас, дарадчык Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве прафесар Уладзімір Сарокін...

А прадставіў Дзінару ўладальнікам шчаслівых білетаў, слухачам радыё, глядачам тэлебачання член прэзідыума Фонда культуры Літвы прафесар Літоўскай акадэміі музыкі Юргіс Дварыонас. Вяла праграму і расказвала аб творчым шляху нараджэнкі з Ліды гаспадыня Бірутэ Кургонене, а побач з ёю былі кампазітар Тэйсутыс Макачынас, музыказнаўца Карына Фіркавічуце...

Аўтарскі канцэрт здымала літоўскае тэлебачанне, запісывала нацыянальнае радыё і тут жа аператыўна інфармавала рэспубліку ды тыя краіны, дакуль даходзяць іх хвалі. Так, Дзінара Мазітава была ў творчым запале, а публіка ад яе ў дзівосным захапленні. Здавалася, што не будзе ніколі канца гэтаму вечару і кветкам, што ўсё прыносілі і прыносілі да яе.

А на наступны дзень яе чакалі ў горадзе атамнай энергетыкі Вісагінасе ў музычнай школе імя Чэслава Саснаўскаса па запрашэнні мясцовага аддзела культуры. Ігра юнай піяністкі і яе творы, і яе падарункі зіхатліва ашаламілі слухачоў, якіх набілася ў залу, што нельга было і прадыхнуць! Віноўніца ўрачыстасцяў падаравала сваім прыхільнікам са школы свае ноты балета "Дзюймовачка". Былі кветкі, экскурсіі і адваротныя падарункі...

– Гэта быў цудоўны сон! – на наступную раніцу казала Дзінара.

Але ўжо чакала новая сустрэча ў Вільнюскай гімназіі мастацтваў імя М.К. Чурлёніса *(дырэктар Рамуальдас Кондотас)*.

Канешне, найбольш цяжка выступаць перад аднагодкамі, такімі, як сама, навучэнцамі, але і тут яна завалодала розумам і душамі равеснікаў і іх выкладчыкаў. Адбылася і вельмі павучальная размова аб шляхах развіцця сучаснай музыкі.

Аднагодкі падаравалі лідчанцы нотны альбом Чурлёніса, кампакт-дыск твораў свайго вялікага кампазітара і мастака, альбом аб сваёй гімназіі.

Поўнасцю выступленне ў гімназіі запісаў на радыё Менсаід Байрашэўскі – цудатворны літоўскі татарын, ён жа з'яўляецца кіраўніком праграмы класічнай музыкі. А пазнаёміўся ўпершыню

Менсаід Байрашэўскі з Дзінарай Мазітавай на Сусветным кангрэсе татараў і тады ж зачараваўся і зацікавіўся яе музыкай.

Толькі вярнулася Дзінара Мазітава з Літвы, а ўслед за ёй на адрас міністра культуры РБ Аляксандра Уладзіміравіча Сасноўскага ляцела пісьмо ад дырэктара Цэнтра Культурнай дзейнасці Усходняй Літвы гаспадыні Бірутэ Кургонене *(даюцца вытрымкі ў маім перакладзе. — **М.М.**)*.

*"... На ўсіх сцэнах Дзінара праявіла сябе як дзівосная піяністка, ціплая абаяльная дзяўчына, яе светлая творчасць захапіла нават самую патрабавальную публіку. (...).*

*... Візіт Дзінары асабліва прыемны тым, што праз яе мы мелі магчымасць хоць бы часткова далучыцца да культурнага жыцця суседняй Беларусі, што сёння, гэта так, здараецца так рэдка..."*

Прыехала радасная і шчаслівая Дзінара дамоў і засталіся разам з ёю шчырасць чулых і добрых літоўцаў, літоўскіх татараў, іншых прадстаўнікоў Вільнюскага краю, а таксама праграмы, буклеты, відэаздымкі, фота ды іншыя сувеніры з кветкамі ад цудадзейнага дзейства, што адбылося ў 1999 годзе...

**М.Маліноўскі.**



## З эпісталярнай спадчыны дзядзкі Якуба
### *(Якава Адамавіча Якубоўскага)*
### *(працяг)*

*Шматпаважаны Міхась-кардаш (брат)!*

*Мір Вам!*

*Дзякую Вам за вельмі прыгожы і змястоўны ліст. Я яшчэ раз прачытаў Ваш артыкул, папрасіў дапамогі ў нашага Якуба Адамавіча і такім чынам дасылаем Вам нешта падобнае на водгук.*

*Ваш артыкул "Салям алейкум — мір вам..." напісаны з добрым веданнем справы, цікава. Нам здаецца, што перадрукоўваючы яго мала што трэба папраўляць. Але тое-сёе ёсць і для папраўкі, ёсць недакладнасці, і яны вельмі лёгка выпраўляюцца (гл. заўвагі на л. 2).*

*Дасылаем Вам таксама матэрыял, які можна выкарыстаць пры напісанні артыкула. Зычым Вам плённай і самаадданай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.*

*Мір Вам, міласць Аллага і Яго бласлаўленне!*

*Аллаг (хвала Яму і Вялікі Ён) заўсёды з тымі, хто творыць дабро!*

*Вельмі шчыра:*

Ібрагім **Канапацкі.**
Якуб **Якубоўскі.**



*Добры дзень, дарагі наш чалавек Міхась Міхайлавіч!*

*Галоўнае, што трэба кожнаму чалавеку — гэта здароўе. Астатняе можна купіць, украсці, нават адабраць у час рэвалюцыі. Але здароўе чалавеку дае Бог, выпрабаваўшы яго хваробай. Магчыма, што Ён назірае, які́м будзе чалавек у час хваробы. Калі ён (чалавек) не згубіць чалавечыя якасці, то ён чалавек. Можа толькі занадта доўга і занадта сурова выпрабоўвае Бог чалавека.*

*Міхась! Маю невылечную хваробу — страту памяці. Навагоднюю паштоўку шукаў мо з гадзіну, а паклаў, аказваецца, у кніжачку, якую Ібрагім Канапацкі сказаў пераслаць для цябе.*

*Першы нумар матэрыялаў "Ісламская культура..." перашлем табе ў першым квартале 1997 г.*

*Атрымаў я паштоўку ад Браніславы і Ігнацы Лапкоўскіх. Перадай ім ад мяне дзякуй і прывітанне.*

*Адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам нараджэння Сцяпана Александровіча, які стаў доктарам філалагічных навук. У 1940-х гадах ён у газеце (даведаюся і напішу) напісаў нарыс пра Баранавічы. Калі ў цябе будзе здароўе, час і ахвота, то пачытай, а можа напішы пра сённяшнія Баранавічы. Калі такі супастаўны нарыс зойме 4—5 старонак, калі там нешта будзе пра татар, то мы надрукуем у "Байраме".*

*Працую над завяршэннем картатэкі "Энцыклапедыі для беларускіх татар". Будзе нейкіх 7—8 тысяч назваў артыкулаў, а гэта складзе каля 10 тысяч радкоў машынапісу. Друкаваць буду 30 дзён. Папера ёсць, а ці дасць мне Аллаг зрабіць гэту работу — не ведаю. Прашу свайго брата купіць мне капіркі, бо трэба яе шмат — каля 1000 аркушыкаў. Манапалісты за капірку бяруць столькі, што яна каштуе даражэй за звычайную паперу, за думкі, якія надрукаваны.*

*Машыністкі бяруць за перадрукоўку 1 старонкі 25 цэнтаў, гэта значыць 5 тысяч рублёў за 1 старонку. Доктару навук ганарар плацяць менш, чым ён павінен заплаціць машыністцы.*

*Дык як той Казьма Пруткоў казаў: "Калі можаш не пісаць, то не пішы".*

*Ёсць добрыя парады, але не магу іх выконваць, бо волі над сабой не маю.*

*Міхась! Ты ведаеш, што мая жонка вярнулася на сваю былую працу. І дзякаваць Богу. Спакайней стала ў мяне на душы.*

*Няхай 1997 г. будзе для цябе больш спрыяльны, чым мінулы.*

*Абдымаю і цалую.*

*Якуб* ***Якубоўскі.***



## *Добры дзень, дарагі Міхась!*

*У Ленінцы, так раней называлася Нацыянальная бібліятэка Беларусі, я чытаў у 1950 г., але ўжо некалькі гадоў туды не хадзіў. Згубіў пашпарт, а таму было боязна туда пайсці. Пайшоў, выпісалі білет, ды такі вялікі, што адтапырвае кішэнь. Бяры абавязкова з сабою пашпарт, цябе запішуць. Прывяду цябе ў той корпус, дзе для цябе заказана кніга.*

*Дай мне тэлеграму такога зместу: "Приеду вторник", або "Приеду четверг". Няхай гэта будзе 17, 18, 19, 20, 21... студзеня. Буду цэлы дзень дома цябе чакаць (мой хатні тэлефон 263-37-89), нікуды не пайду, дачакаюся. Ты можаш пажыць у мяне столькі дзён, колькі будзеш працаваць з кнігамі, іншымі матэрыяламі.*

*Прывітанне Лапкоўскім.*

*Прывітанне табе ад маёй жонкі.*



## *Добры дзень, Міхась!*

*Дзякуй за тое, што ў цябе стае сілы, каб пісаць мне. Учора быў у нас Віктар Ігнатавіч Лапкоўскі, перадаў тры кнігі. Не было ў яго часу і не адведаў маіх пачастункаў.*

*Пазычыў у адной установе схему Баранавіцкага раёна, дзе былі межы сельсаветаў, іх цэнтры, вёскі і хутары.*

*Але за апошнія 10 гадоў адбыліся змены, назвы сельсаветаў крыху змяніліся. Толькі гэта не бяда. Назвы вёсак, якія змяніліся за апошнія 30 гадоў, на адвароце.*

*Цяпер за пошукі, дружа!*

*Бяры пяты том кнігі "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя". Там каля 4 тысяч біяграфій. Шукай тых, хто нарадзіўся ў Баранавічах, у вёсцы Баранавіцкага раёна, у Слонімскім ці Навагрудскім паветах, Баранавіцкім павеце.*

*Трэба шукаць знакамітых землякоў у іншых энцыклапедычных выданнях — Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, Архітэктура Беларусі, у першым і другім томе (у гэтым годзе выйдзе трэці том) Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Цяжэй перачытаць 40 тамоў бібліяграфічнага даведніка Польшчы. Апошні выпуск даведніка Пісьменнікі Беларусі.*

*Калі лічыць, што ў Баранавічах на 1.01. 1995 г. жыло 172,9 тыс. чал., а ў раёне яшчэ 51,8 тыс. — усяго 224,7 тыс. і што гэта складае каля 2% насельніцтва Беларусі, а жыхары горада і раёна далі 2% славутых людзей, то знойдзецца каля 60 чалавек славутых ураджэнцаў. Яшчэ можа столькі можна набраць з тых, хто істотна дачыніўся да гісторыі горада і раёна.*

*Думаю, што музей таксама ведае пра вашых славутых. Да канца гэтага стагоддзя, Міхалка, павінен скласці рукапіс даведніка пра Баранавічы і раён. Перш за ўсё бярыся за людзей, а тады ўжо капайся з тым, як пісаць назву мястэчка — Крашын ці Крошын. Гарні да сябе ўсіх, хто любіць свой край. Уключай артыкульчыкі пра кожнага паэта (перш за ўсё Браніславу Лапкоўскую), кожнага музыку, спевака, танцора, добрага гаспадарніка, асабліва калі ён спонсар ці мецэнат. Славутых настаўнікаў, бібліятэкараў, аграномаў, садаводаў, бортнікаў, выхавацеляў, святароў — усіх добрых людзей.*

*Ты, Міхась, штаб для ўсіх добрых людзей.*

*З гонарам у трэцяе тысячагоддзе!*

*Прывітанне табе, Міхале, ад маёй жонкі. Прывітанне Лапкоўскім. Слаўныя ў іх дзеткі.*

*У 1964 г. атрымалі новую назву вёскі Баранавіцкага раёна:*

*Блошня — Ягодная;*
*Бовдиловцы — Слобожаны;*
*Гавиновичи — Подгорная;*
*Дурневичи — Луговая;*
*Жеребиловичи — Сосновая;*
*Мордичи — Зоричи.*

*У 1969 г. новую назву атрымала вёска:*

*Мутьковичи — Звёздная.*

*Звесткі з кнігі:*

*В.А.* ***Жучкевич****. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Издательство БГУ им. В.И.Ленина. Минск, 1974. Стр. 439-447.*



*Добры дзень, Міхась!*

*Перадавай ад нас прывітанне Лапкоўскім. Гэта галоўнае, што я прашу. Астатняе ўжо не так важна. Прачытаў твае артыкулы і нататкі ў вашай газеце. Газета цікавая і добрая, а твае артыкулы, што зерні крышталізацыі, вакол якіх ідзе фарміраванне газеты. Для гэтага выдання памер артыкулаў, размяшчэнне іх*

*і змест вельмі добра адпавядаюць. А цяпер пра мае блюзненні-прапановы. Трэба знайсці некалькі чалавек, перш за ўсё сям'ю Лапкоўскіх, якія б захацелі выдаць кніжку стагоддзя і тысячагоддзя — Баранавічы. У гэтай кніжцы будзе і даведнік, і душа. Дасылаю табе кнігу* Борисов и окрестности*. Звесткі-даведкі ёсць, а душы няма. Вядома, рабілі гэту кнігу людзі не дурныя, але такі малы аб'ём ім далі, а тыраж празмерна вялікі. Вядома, цана на той час была такой нізкай, што кожны чалавек для сваёй сям'і мог яе купіць.*

*Сабіраць трэба ўсё пра Баранавічы. Знайсці і запісаць расказ тых, хто памятае жыццё і горад да 1939 г. Не адбірайце тых, хто толькі ганіць мінулае жыццё. Бо нават гной для аднаго чалавека толькі смурод, а для другога чалавека — падстава і ўмова добрага ўраджаю на градцы, на ніве. Добра было б, каб вялася бяседа з людзьмі тых часоў і ішоў запіс бяседы на магнітафонную стужку, стужка захоўвалася б, там было запісана, з кім і калі адбывалася бяседа. Можа з бяседы будзе запісана і надрукавана 2—3 старонкі. Знайдзі былых машыністак-сакратарак, у іх ёсць машынкі, ёсць час і ўменне, яны змогуць увайсці ў гісторыю, бо будзе кніга стагоддзя і тысячагоддзя, а не пратаколы нейкіх там паседжанняў, таксама патрэбных, але не вельмі цікавых.*

*Вельмі патрэбнымі і карыснымі будуць успаміны тых, хто перажыў гэтую вайну. Што іх радавала і засмучала пасля вайны. Ёсць кніга "Памяць Беларусь. Рэспубліканская кніга". На старонках 42—48 там звесткі пра Баранавічы і раён за гады 1941—1945 (хоць горад вызвалены ў 1944 г., але людзі, якія ваявалі з ворагам, гінулі на фронце ў Польшчы, Германіі і іншых месцах). Не збівайцеся на крытыку таго, што ў гэтай кнізе надрукавана. Не даводзьце, што ў нейкай магіле пахавана не 99, а 101. Вядома, што не самыя лепшыя доктары ідуць у паталагаанатамы, якія добра ведаюць пасля ўскрыцця чалавека, з якой прычыны памёр чалавек. І ганарацца гэтым, хоць лепш было б, каб яны самі навучыліся і добра лячылі хворых, пакуль тыя яшчэ жывыя.*

*Пішыце пра горад шчаслівых людзей, пішыце пра шчаслівыя сем'і. Вось добра, Міхась, што ты ў сваіх публікацыях напісаў пра сям'ю Лапкоўскіх, але не вельмі добра, што ўпіхнуў Масціцкага, што пры ім былі зачынены школы на беларускай мове. А што зрабіць з тымі, хто выгнаў беларускую мову са школ у 1980-я гады, ужо ў Беларусі Савецкай. Просты чалавек сказаў бы, што трэба такім людзям кол асінавы ў магілу забіць. А ці пратэставаў ты, Міхась, у 1985 і далейшых гадах супроць таго, што беларускія школы на Беларусі зрабілі рускімі? Але хрысціянін павінен не ваяваць, а дараваць сваім крыўдзіцелям.*

*Не трэба бедаваць, што кніга ваша будзе не такая, як у другіх. Птушка нясе яйкі і выводзіць птушанят такіх, як атрымаліся. І любіць іх. І на гэтым трымаецца жыццё.*

*Будзе ўяўляць вялікую вартасць картатэка, якую склалі ў Рэспубліканскай бібліятэцы. Калі нехта патраціць 20 дзён, то можа на карткі перапісаць гэтую картатэку. Трэба толькі знайсці ўраджэнца Баранавічаў, ці проста патрыёта, каб ён пахадзіў туды і вельмі чытэльна перапісаў усю картатэку. А калі знойдуцца багатыя і добрыя спонсары, то 4—5 тысяч артыкулаў пра Баранавічы можна будзе перадаць на ксеракс. Добрыя справы і добрыя людзі — вось што павінна быць галоўным у вашай кнізе. Пра розных паскуднікаў, катаў не варта пісаць, бо нават толькі адзін прусак ці таракан, які трапіў у кацёл з супам, адаб'е ахвоту ў чалавека есці гэту страву.*

*Не трэба адразу ставіць задачу, як будзе выглядаць кніга. Само сабой зробіцца, бо калі жанчыну прасвечваць, нават бясшкодным тамографам з першых дзён цяжарнасці, то яна не даносіць дзіця, будзе выкідыш. Няхай ідзе так, як ідзе. Нават пісьменнік не думае пра ўсе ўчынкі, якія зробіць яго літаратурны герой. Некаторыя літаратурныя крытыкі казалі, што ў рамане (а можа гэта і аповесць?) Шамякіна "Гандлярка і паэт" вобраз гандляркі атрымаўся, а паэта і няма, не выйшла.*

*Трэба падумаць, што і як можна ўпрыгожыць кнігу пра Баранавічы і наваколле вершамі Браніславы Лапкоўскай.*

*Шукайце пісьмы-лісты апошняга рускага цара і лісты цару, якія былі напісаны яму, калі цар жыў у Баранавічах.*

*(...)*

*Міхась! Быў я яшчэ раз, пасля твайго наведвання, у Рэспубліканскай бібліятэцы. Прачытаў некалькі артыкулаў-матэрыялаў пра татар у тым 31-м томе літоўскай метрыкі. Усё цікава, нават тое, што не цікава. Адны імёны і прозвішчы і то ўяўляюць для чытача цікавасць, калі іх пералічыць. Ці ёсць якая заканамернасць знікнення адных і паяўлення другіх прозвішчаў, а якія імёны захаваліся да сённяшніх часоў? Цяпер ёсць магчымасць (у мяне ёсць такая кніга) растлумачыць, як перакладаецца на беларускую мову тое ці іншае мусульманскае імя. А можа для бацькоў і варта такое зрабіць, бо вельмі часта яны называюць дзіця і не ведаюць, што імя абазначае. У 1930-х гадах для татар у Заходняй Беларусі быў складзены спіс, каб пашырыць кола імёнаў, бо яно стала вельмі вузкім, нейкіх 20—30 мужчынскіх і 20 жаночых імён. Да рэвалюцыі ў хрысціян было прынята даваць імёны для дзяцей па календары, які дзень святога ці святой, калі нарадзілася дзіця, такое імя і давалі. Праўда, ні поп, ні ксёндз не былі супраць, калі імя выбіралі родныя ці хросныя бацькі, калі яны хацелі ганараваць бацькоў ці бабуль-дзядуль сваіх родных. Такім чынам, выбар па календары пашыраў кола імёнаў мо да 100, а то і больш (часта ў каляндар трапляла адно і тое ж імя некалькі разоў, так што імя асабліва шанаванай святой, траплялася часта).*

*Прывітанне табе ад Таццяны і Кастуся.*

*Заставайся здаровы. Прывітанне табе ад Ібрагіма.*

*Найлепшыя пажаданні, удзячнасць ад нашай сям'і для сям'і Лапкоўскіх.*



*Дарагі Міхась!*

*Суседка мая ідзе ў краму, і я з аказіяй перадам ліст, каб яна ўкінула ў паштовую скрыню.*

*Цяпер вельмі цяжка напісаць такое, каб надрукавалі. Калі ж надрукавалі, то яшчэ цяжэй дамагчыся, каб прачыталі. А калі нават і прачыталі, то яшчэ цяжэй дамагчыся таго, каб правільна зразумелі. Таму "молчи, скрывайся и таи и мысли и мечты свои".*

*Нагадаю стары яўрэйскі анекдот. У горадзе яўрэй убачыў шыльду "Окраска яиц". Здзівіўся і падумаў: "Уй, кому это нужно и кто это выдержит". А каб ён быў з беларускай вёскі, ведаў аб тым, што ёсць Вялікдзень, то нічога дрэннага не падумаў.*

*Нашага Ібрагіма Канапацкага абралі членам-карэспандэнтам Акадэміі меншасцяў народаў, якія жывуць на Беларусі.*

*Выйшаў у свет першы том другога выдання Беларускай Энцыклапедыі.*

*Шануйце здароўе, не пішыце нічога ў друк, пішыце сябрам.*

*Дзякуй Вам за тое, што дасылаеце мне Вашыя цікавыя публікацыі. Чытае іх жонка, чытаюць мае сябры, прачытаюць дзеці і ўнукі.*



*Добры дзень, дарагі Міхась!*

*Прывітанне табе перадаю ад жонкі, бо пасля, як распішуся, магу забыць. Перадавай ад нас прывітанне сям'і Лапкоўскіх.*

*Вельмі сумна мне тое, што хвароба не пакідае цябе. Яўрэі казалі, што здароўе адыходзіць пудамі, а здароўе прыходзіць залатнікамі (грамамі).*

*За дзень – нядзелю ныркі не вылечылі. Дыстыляваная вада п'ецца для таго, каб кроў не згусала, а соляў у такой вадзе няма і на ныркі тады меншая нагрузка (солі я маю на ўвазе не натрыевыя, а кальцыевыя-вапнавыя). У чайніку яны пакідаюць накіп, праўда, там ёсць і крэмній – $SiO_2$, а ў дыстыляванай вадзе нічога гэтага няма. Трэба дзень-два пагаладаць, потым зрабіць на дзень-два перапынак, тады зноў пагаладаць. А галадаць 10 дзён, нават 3 дні без доктарскага нагляду, нельга. Кароткія, на 1-2 дні галадоўкі, ніяк пашкодзіць не могуць, як і дапамагчы гарантавана не могуць.*

*Цяпер пра кнігу, якую ты мне прыслаў. Бываюць і больш цікавыя кнігі, бо выдуманыя сітуацыі могуць быць больш*

*займальныя. Але тут сабрана ўсё натуральнае, такое як карэньчыкі і галінкі з лесу. Асабліва карысная гэта кніга будзе настаўнікам рускай літаратуры. Напрыканцы года прыедзе да нас сястра Тані — Юля. Яна былая настаўніца рускай літаратуры. Вось хто ацэніць гэту кнігу па-сапраўднаму. Дзякуй табе, дзякуй твайму сябру, хоць адным дзякуй не адбудзешся. "Надейся и жди", як кажуць у старай песні.*

*Спадзяваўся, што выйдзе з друку "Байрам" № 3, у якім змяшчаем вершы Браніславы. Тады збіраўся паслаць табе ліст і часопіс. Але ўсё ідзе не так хутка, як думаецца. А тут бачу, Новы год са Снягуркай ідуць, а людцы добрыя не павіншаваны.*

*Дашлю адразу, як толькі...*

*Зроблены набор матэрыялаў другой татарскай канферэнцыі. Будуць дзве кніжачкі па 180 старонак кожная. Ваш даклад я па назве крыху змяніў. Цяпер называецца ён "Жыў 500 гадоў на Беларусі цвярозы народ". Хто цікавіцца, той ведае, што татары жывуць тут 600 гадоў. Калі ад 600 адняць 500, то атрымаецца 100 гадоў, а гэта ўжо гады не цвярозага народа. Сапраўды, у час Першай сусветнай вайны пачалі людзі рабіць самагонку. Праўда, пры Польшчы не гналі гарэлку, бо судзілі. У параўнанні з савецкімі судамі 1950-60-х гадоў тэрміны пры Польшчы былі смешна малымі — 1—2 гады, але быць у турме было ганебна, як і за крадзеж. Ганарова было сядзець за палітыку, за падпольную работу супраць улады. З чалавекам, які сядзеў за палітыку, нават чыноўнікі размаўлялі пачціва. На сённяшні дзень татары п'юць не менш, а нават можа больш, чым беларусы. <u>Але ў Вашым артыкуле ёсць галоўнае: не трэба піць, бо жылі ж людзі даўней без гарэлкі.</u>*

*Працую крышачку над чацвёртым нумарам "Байрама". Патраціў мо не адну сотню гадзін над тэмай: Цюркізмы ў беларускай мове. Зімна ў бібліятэцы. Вельмі цікавая праца Аляксандра Мікалаевіча Булыкі — "Даўнія запазычанні беларускай мовы (XV—XVIII ст.)". Ён даследаваў каля 4 тысяч запазычанняў — лацінскіх, польскіх, нямецкіх, цюркскіх (каля 200), грэчаскіх, літоўскіх і іншых.. Гэта дзве машынапісныя кнігі. Вялікую работу зрабіў навагрудчанін (нарадзіўся 18 сакавіка 1935 г. у в.Селішча Навагрудскага раёна. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1994г.). Больш як 170 навуковых прац. Як даследчыка цюркскіх уплываў на бел. мову мы ў наступным "Байраме" змесцім пра яго энцыклапедычны артыкул, узгадніўшы з ім гэтае пытанне.*

*Поле дзейнасці ў мяне вялікае, час ёсць, а розуму і ўмення няма. Тут як і ў занятках літаратурай. Трэба аловак і шматок паперы, а ўжо астатняе ад Бога.*

*Калі былі шчырыя вернікі, то было выйсце: маліся, пасціся, рыхтуйся на той свет, спадзявайся...*

*Дарагі Міхась! Пішы, чытаць лісты люблю, хоць мучаюся тым, што слухаючы салаўя не магу адказаць яму салаўінай песняй.*



# ПАЭТЫЧНАЯ СТАРОНКА

## БІ СВАЙГО...

*( пра вайну ў Чэчні)*

Жартавалі калісьці, смяяліся,
Як радня лезла ў бойку падчас.
"Бі свайго, каб чужыя баяліся", –
Засталося за прымаўку ў нас.

Што з людзьмі,
Што, браткі, з намі сталася?
Не па п'янцы,
А ўжо наўмысля:
"Бі свайго,
Каб чужыя баяліся!.." –
І лупцуюць, аж стогне зямля!

У малойцаў не стомлены мускулы,
Не наводмаш – ракетамі б'юць
Я ад жудасці вочы заплюшчваю,
Мне ўсміхнуцца ніяк не даюць.

Плачуць, стогнуць палі, хоць не наскія,
У пажарах, у смерці ў цісках.
Вочы дзе, што свяціліся ласкаю?
Сэрцы дзе, што былі ў кунаках?..
І не рог, а гранаты ў руках...

Што з людзьмі,
Што, браткі, з намі сталася?
Там – грызня,
Там – разня,
Там – баі...
Бі свайго,
Каб чужыя баяліся!...
Колькі ж іх засталося,
Сваіх?

**Мікола Чарняўскі.**



## СКІРАВАНАСЦЬ У ІНШЫ СВЕТ

*(Малітва)*

Пакрываюцца мохам пні...
Абрастаюць людзі
Малітвамі.

***

А ёй што буклі ў парыку падбіць –
Што памаліцца
Богу.

***

Як варона з кала на кол,
Ад адной да другой малітвы
Лётае ён... не ў небе.

***

Малітва яго – бы член:
Ці стаіць, ці ляжыць...
І заўсёды такіх, як і сам, спараджае.

***

Большасці люду
Малітвы нічуць не складаней,
Чымся дзятла ў лесе грук.

***

Малітва часам – што пакулле:
Людзі шчыліну ім
Імкнуцца ў душы заткнуць.

***

Бы салома, малітва яго:
Хутка ўспыхвае, хутка гарыць
І хутка вельмі згарае.

***

Малітва яго ляціць
Не далей мяча,
Якім у лапту гуляюць.

***

Адвісае малітва ўладыкі,
Быццам пуза яго
Ці зад.

***

Малітву творыць ён,
Нібы смятану ліжа
Кошка.

***

Не адну міралюбную
Малітву яго спажыла душа,
А пагляд і застаўся драпежным.

***

Не дзіва, як конкурс малітваў
Хутка наладзяць
Папы.

***

На базары адна малітва:
Як бы выгадаць,
Не прадзешавіць.

***

Нібыта ў пенал алоўкі,
Ён малітвы свае
У малітоўнік складае.

***

Памаліўся... заснуў...
І малітва яго заснула...
І разам старанна храпуць.

***

Не ліпавая малітва – з душы,
Усё ж астатняе –
Нібы бляхі з фанеры.

***

Малітва – не курок,
Націснуў на які –
І мэты дасягнуў.

***

Лускаць семачкі –
Вось малітва малітваў
Усіх наўкола саўкоў.

***

Бы стракатая коўдра,
Малітва людская:
Кожны цягне яе на сябе.

***

Малітва – не вымя...
Яна не дае...
Забірае яна...

***

Малюся –
Дэлегірую Богу душу,
А яна – ані з месца.

***

Згубная тая малітва,
Што не ўвасабляецца
У жыццё.

***

Па дарозе ў апраметную
Пацешаемся модламі
Сталіна, Гітлера і падобных.
***
Малітва – не цацка, не забаўка,
Малітва –
То цэнтар душы.
***
А ў кветкі – свае малітвы...
Гэта – яе
Пялёсткі.
***
Малітва – тады малітва,
Калі, нібы лодка па хвалях,
Прабягае па сэрцы яна.
***
Я ў рэчцы – рэчка моліцца за мяне,
Я ў лесе – лес моліцца за мяне,
Я ў ночы – неба зорнае моліцца за мяне.
***
І чарвяк, што зямлю апрацоўвае,
Моліцца за цябе,
Чалавек.
***
Калі дакладны час паказвае гадзіннік,
Ён – да ўсяго яшчэ –
І моліцца за нас.
***
Без здольнасці
Цвяроза думаць, разважаць
Ці зможам па-сапраўднаму маліцца?
***
Маліцца – пакараным быць ужо,
Але ж і шанс адначасова мець
На паратунак.
***
Душа без малітвы –
Вывіхнутая
Душа.
***
Маліцца – маліся,
Ды хай малітва твая
Тут жа не падае на падлогу.

***

Са стратай апошняга лісціка
Пачынае маліцца
Куст.

***

Калі не ведаеш, што дзеіць,
Не рабі нічога,
А толькі ціха памаліся.

***

І як жа будзеш ты маліцца,
Як мовай роднаю
Стыдаешся маўляць.

***

Малітве глядзі не ў патыліцу,
А ў твар...
І спазнаеш вялікі плён.

***

Мне б такую малітву,
Каб, бы палкаю выбівальнай,
Выбіваць з сябе розную дрэнь.

***

Сапраўдныя малітвы
Заўжды ў іншы
Скіраваны свет.

***

Няма большага міратворцы,
Чым ад шчырага сэрца
Малітва твая.

***

Усе, што памерлі,
Пайшлі да сапраўднай
Малітвы.

***

Малітва – тады малітва,
Калі Бог тваю душу
Чуе.

***

Шчыра маліцца –
Ткаць светлае месца сабе
У Сусвеце.

***

У неба ляці, малітва,
Але ж і ў душы
Асядай!

***

Богу маліся,
Але й на нягодніка
Цыкнуць не забывай.

***

Хто ў Бозе жыве,
Той болей дзеіць,
Чым моліцца.

***

Малітва тады нас вядзе,
Як самі ідзем
Мы яе папярэд.

***

Малітва ператворыцца ў рогі,
Калі не будзем мы яе
Здзяйсняць.

***

Чым больш ты молішся,
Тым болей спасцігаеш,
Што лепей аднаму на свеце жыць.

***

Маліцца – маліся,
Ды й пра бізун для сябе
Не забывай!

**Яўген Гучок**



## Прадмова да новай нізкі вершаў Браніславы Лапкоўскай з слаўнага роду Алеся Гаруна

У рэдакцыю штоквартальніка прыйшло чарговае пісьмо Браніславы Лапкоўскай з Баранавічаў. Мы адкрылі яго, прачыталі яе вершы і адразу ўспомнілі верасень 1994 г., калі ў горадзе ля ракі Мышанкі ладзілася сябрына мясцовых татараў, прыехалі туды і госці з Менска: Ісмаіл Меметаў, Якуб Якубоўскі, Ісмаіл Варановіч і Ібрагім Канапацкі. Пра тое дзівоснае мерапрыемства быў матэрыял "Татарская вечарына ў Баранавічах" *(№ 4, 1994)*, дзе Браніслава Міхайлаўна царавала з сваімі адметнымі вершамі. У тым жа нумары была і яе нізка твораў: "Мова", "Людзі дружбы чатырох нацый", "Спадчына".

Рэдакцыя штоквартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" можа з гонарам сказаць, што гэта былі першыя публікацыі у сталічным друку паэткі з народу Браніславы Лапкоўскай, у якой дзявочае прозвішча Прушынская і якая паходзіць з таго ж слаўнага роду, што і класік беларускай літаратуры Алесь Гарун.

Сёння мы спецыяльна пералічым тыя газеты, часопісы, іншыя выданні, дзе былі надрукаваны творы паэткі Браніславы Лапкоўскай, або пісалася аб ёй. Спачатку прывядзём вытрымку з "Літаратуры і мастацтва" ад 18 снежня 1998 г., якая, прадстаўляючы рэспубліцы баранавіцкіх паэтаў, мовіла пра яе і пачала друкаванне твораў менавіта з яе: *"Увогуле — у баранавіцкіх адметныя галасы. І не дзіва, што сярод іх вызначаецца патрыятычным напалам голас былой сваячкі нашага класіка Алеся Гаруна (Прушынскага)"*. Пачынаем гэтае пералічэнне з баранавіцкай газеты "Знамя коммунизма", дзе 5.12. 1990 г. упершыню гараджане прачыталі і пазнаёміліся з яе вершамі, сёння — гэта "Наш край", "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", Беларуская лясная газета", "Беларускі час", "Культура", "Раніца", лістоўка "Маладой грамады", "Заря", "Наша слова", "Настаўніцкая газета", "Народная трыбуна", "Першацвет", "Intex-press", "Книга и мы", "Белорусская нива", "Камунікат", "Glos znad Niemna", "Дыялог", "Святліца", у зборніку пра Сцяпана Александровіча.

Друкуючы новую нізку вершаў шаноўнай Браніславы Лапкоўскай, якая разам з сваім мужам Лапкоўскім Ігнатам Іванавічам *(хроснікам самога прэзідэнта Польшчы Ігната Масціцкага)* выхавала 4 сыноў і дачку і мае шмат унукаў і ўнучак, мы кажам ёй вялікі і шчыры дзякуй і зычым нашаму вернаму і надзейнаму сябру доўгіх і шчаслівых гадоў, зіхатлівых вершаў і моцнага здароўя.

**Рэдакцыя штоквартальніка**
**"Байрам. Татары на зямлі Беларусі"**

## Адаму Міцкевічу

На ўзбярэжжы возера Сьвіцязь
Шапочуць лясы, гукаюць птахі.
А рыбакі са сваімі вудамі,
Як тыя скавароначкі глядзяць на дахі.

Цякуць хвіліны за хвілінай
І ўсё хутчэй падыходзіць сьвята.
На Навагрудчыне — каменнай
Працуюць людзі так заўзята.

Ужо аднавілі купалы...
Касцёлаў, цэркваў, усіх бажніцаў!
Да двухсотгоддзя Адама Міцкевіча!
Прыбралі ўсе яго сьвятліцы.

А зь неба зорачкі глядзяць!
Ужо два стагодзьдзі лічаць...
Ды, што яны для людзей?
А колькі цеплыні ўсім людзям зычаць!

Але паэт наш дбаў аб тым,
Што будзе людзям шчасце!
Свабода, мова й вечны гімн
Не ў муках, не ў напасцях

Праславіцца яго зямля!
На Навагрудчыне каменнай.
І будзе вечна жыць яна!
Мы думаем цяпер – нядрэнна.

**Браніслава Лапкоўская**
*Прысвячаю Ібрагіму Канапацкаму.*



Мой горад спіць
У начной цішыні.
А я на чыгунцы
На варце.
І месяц і зоры
Усміхаюцца мне
"Мы разам з табой
Цягнікі сустракаем..."
Ліхтар – быццам вочае вока здаля
Сцяжок, якім махаю.
Мой горад спіць у начной цішыні,
А я – цягнікі сустракаю.

**Браніслава Лапкоўская**
*Прысвячаю Ісмаілу Варановічу*



У маленькай, старэнькай хацінцы
Запаліўся ля ваконцаў агонь...
Мама прала-прала кужаль на красёнцы
І сукала-сукала цэўкі на далонь.

А на печы пукі лёну сохлі,
Церніца стаяла за хлявом
Мама-мама выбівала кудзяліцу
Да кастрыца-кастрыца падала кругом.

Тут варштат ў хатцы каля ложаў
Грукаў, стукаў бо амаль не кожны дзень...
Мама-мама ткала сонейкі-палотны
І даўжэй-даўжэй клалася цень.

Кросны, кросны...
Ужо находзяць вёсны
Зелянеецца траўка за вакном
Мама-мама датыкала свае кросны
А палотны сохлі дзесь радком.

У маленькай, старэнькай хацінцы
Запаліўся ля ваконцаў агонь...
Мама прала-прала кужаль на красёнцы
І сукала-сукала цэўкі на далонь.

**Браніслава Лапкоўская**
*Прысвячаю Міхасю Маліноўскаму*



## ПОШТА «БАЙРАМА»



*Дорогие сёстры и братья!*

*Ассаляму алейкум уа рахматул-лаhи уа баракятуhу!*

*Получив первую посылку, я Вам выразила сердечную благодарность, но Вы наверное не получили это письмо? Мы всегда искренне Вам благодарны за все газеты и посылки. Они нас духовно обогащают и дают возможность более сплотиться во имя Аллаhа за наше общее будущее. Это наша всех одна цель.*

*Да поможет всем нам Всевышний Аллаh в эти дни священного месяца Рамадан стремиться праведностью и нравственностью быть примером всем верующим. Поздравляем с приближающимся праздником Аид аль-Фитр. Желаем Вам всем крепкого здоровья, хорошего настроения и радости в каждой мусульманской семье! Больших Вам успехов в труде за наше будущее!*

*С уважением*

***М. Криницкайте***



## Посольство Арабской Республики Египет

*22 декабря 1999 г.*
*г. Москва*

*Дорогие братья!*

*Коллектив Посольства Арабской Республики Египет весьма признателен Вам за тёплые поздравления.*

*Позвольте нам со своей стороны также поздравить Вас с наступлением священного месяца Рамадан.*

*Пусть этот праздник, олицетворяющий очищение души и милосердие, доброту и любовь к ближнему, принесёт душевное спокойствие, счастье и благополучие народам наших стран.*



## Участникам и гостям III сессии III Курултая КРЫМСКО-ТАТАРСКОГО НАРОДА

*Во имя Аллаhа Милостивого, Милосердного!*
*Мир Вам, милость Аллаhа Всевышнего и Его благословение!*

*Дорогие братья и сёстры!*

*Управление (муфтият) Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь от имени всех мусульман Беларуси тепло и сердечно приветствуют вас и направляют через своих представителей наилучшие пожелания успехов в работе вашего высшего органа — Курултая!*

*Осознавая свою кровную связь между татарами Беларуси, составляющими основу и формообразующий каркас мусульманской общины Беларуси с одной стороны и татарами Крыма с другой, мы всегда пристально и с самыми добрыми намерениями и побуждениями следим за каждым шагом вашего движения к своему возрождению!*

*Мы восхищаемся вашими упорством, терпением, настойчивостью, силой воли в стремлении добиться восстановления исторической справедливости, законности и признания ваших прав на исконно вам принадлежащей родной земле.*

*Мы всегда искренне радуемся хоть и небольшим, но приближающим вас к поставленной цели успехам, и тяжело переживаем встречающиеся на вашем пути неудачи.*

*Вы являетесь для нас хорошим примером для подражания в нашем стремлении национального и религиозного возрождения на землях Беларуси и наша развивающаяся и укрепляющаяся взаимная всесторонняя связь и моральная поддержка друг друга, мы уверены, помогут нашим народам выстоять в трудной борьбе за выживание и добиться более заметных успехов в будущем.*

*Да поможет Великий Аллах всем нам в наших добрых намерениях и да окажет Своё содействие в их осуществлении!*

*От имени мусульман и татар Беларуси:*

**Председатель Управления (муфтий) И. Александрович.**



*Уважаемый господин Ибрагим!*

*Благодарю за квартальники "Байрам" и за поздравления. Извиняюсь за задержку с ответом, здоровье подводит. Высылаю автобиографию брата Яна с тремя фото. Предложил и другим знаменитым людям написать что-то о себе. Обещали, но тянут время. Собираю информацию о заслуженных людях, но уже не живущих. Я говорил с Евой Воронович насчёт публикаций об Али Вороновиче, она несколько нервничает и предлагает остановить продолжение в связи с некоторыми фрагментами высказываний Али Вороновича под давлением следователя.*

*Ева благодарит за статью Хасеня Александровича о семье Якубовских. Я тоже намерен написать кое-что по поводу опубликованных материалов, но это намерение, и как позволит здоровье — кроме сердца у меня трудности с глазами, врачи осторожно советуют операции на глазах.*

*Вы, Ибрагим, писали, что предполагаете быть в Варшаве, я приглашаю заехать и ко мне, и к Еве Воронович. Прошу предварительно сообщить, в какое время будете.*

**Ромуальд Соболевский,**
*Познань (Польша)*



# Автобиография Яна Соболевского

*Я родился 11 сентября 1925 г. в д. Иваново (Вишнево) Несвижского района (в то время в Зап. Беларуси). Мои родители Матвей и Разыя имели своё хозяйство 15 га земли. В 1932—1938 гг. я посещал начальную школу в Лани. В 1939—1941 гг. учился в средней школе (десятилетке) в Лани. Затем в 1942—1944 г. был учеником Клецкой технической средней школы, закончил три курса этой школы. В 1943—1944 гг. сотрудничал с партизанским отрядом, действовавшим в окрестностях г.Клецка. Постоянную связь поддерживал с партизаном Мухтаром Корицким. Заданием для меня были сбор информации, передача их партизанам и диверсия. Так, в 1943 г. гранатами забросал мост через р. Лань в г. Клецке, чем отвлёк внимание немцев от нападения партизан на промышленные объекты г. Клецка.*

*В июле 1944 г. по мобилизации был призван в Красную Армию. Военную подготовку прошёл в военном лагере в Сельцах над р. Ока. В декабре 1944 г. отправлен на фронт. В бою под Кенигсбергом был тяжело ранен (10.04. 1945 г.). В сентябре 1945 г. был демобилизован по состоянию здоровья. За участие в боях в составе 33-ей Гвардейской Севастопольской дивизии в Восточной Пруссии был награждён орденом "Красной Звезды", медалью "За Победу" и было присвоено звание старшего сержанта.*

*В 1945—1946 гг. закончил 10-ый класс средней школы в Лани. В июне 1946 г. выехал на постоянное жительство в Польшу вместе с родителями, там в д.Радомин в районе Титянка Любуска нам выделили землю для сельхозобработки.*

*В 1947—1949 гг. учился в гимназии торговой в Познани. Самостоятельно начал трудиться с июля 1949 г. по май 1951 г. в Познани в качестве референта в фирме Г. Хартвиг СА.*

*С июня 1951 г. перешёл на работу в районное строительное предприятие в Титянке Любуской в качестве начальника планового отдела. Затем трудился в объединении бытовых услуг (с 1954г.), затем (1955—1956 гг.) учился в Центральной школе повышения квалификации в Кракове. Женился в июне 1957 г. С октября 1956 г. по ноябрь 1959 г. работал в кооперативе инвалидов в Титянке Любуской в качестве финансового руководителя. Членом ПОРП был принят в 1953 г., был секретарём первичной парторганизации, членом городского комитета ПОРП в Титянке Любуской, затем в 1958—1959 гг. вторым секретарём этого комитета. Также был избран членом местного Совета в Титянке Любуской. В 1959 г. закончил вечерний университет в Познани. В 1950 г. закончил 4-х месячные курсы бухгалтеров, в 1954 г.— курсы*

*для инвесторов, в 1955 г.— курсы членов руководства кооперативами, в 1956 г. — курсы документации и оплаты.*

*В 1959 г. вместе с семьёй переехал на постоянное место жительства в Белосток, где трудился в областном объединении кооперативов (1960—1967 гг.), затем в кооперативе обработки кож, на фабрике хозизделий. В 1985 г. вышел на пенсию. С 1961 г. и по настоящее время являюсь председателем Ревизионной комиссии Союза военных инвалидов в Белостоке.*

*С 1995 г. являюсь председателем Ревизионной комиссии Союза ветеранов войны и бывших политзаключённых областного управления в Белостоке.*

*В 1974—1979 гг. был избран членом Высшей коллегии Мусульманского религиозного Союза в Польше.*

*В 1984—1991 г. был избран председателем Ревизионной комиссии этого Союза. С 1991 г. являюсь председателем Высшей коллегии Мусульманского религиозного Союза в Польше.*

*За участие в производственной и общественной деятельности награждён многими наградами, благодарностями от государства, организаций.*

*В настоящее время являюсь членом Польской монархической Лиги — с титулом князь.*

**Белосток, 1999 г.** **Ян Соболевский**



# ПОЗДРАВИТЕЛЬНОЕ ПОСЛАНИЕ

## граждан Афганистана, проживающих в Республике Беларусь

*Уважаемый господин Ибрагим Борисович Канапацкий!*

*Мы, граждане Афганистана, проживающие в Республике Беларусь, поздравляем Вас и в Вашем лице всех мусульман-татар, населяющих Республику Беларусь со священным праздником Курбан-Байрам. Желаем Вам здоровья, счастья, мира и согласия в каждом доме.*

*Празднование этого священного дня способствует единству и сплочению всех мусульман мира. Ярким примером этого является*

*совершения паломничества миллионов мусульман со всех концов нашей планеты в священные для Ислама города Медина и Мекка.*

*Желаем, чтобы благодаря этому священному празднику, Мир и Согласие царили во всём мире, в том числе на нашей многострадальной Родине — в Афганистане.*

*С уважением* **А.К. Бегзаде**



*Уважаемый наш Ибрагим Борисович!*

*Салям алейкум!*

*Мы Вас ждали на Кадыр, но так и не дождались, много было народу, особенно на Рамазан-Байрам, мы прикинули, где-то за 100 человек, этому поспособствовал выходной день. Слава Аллаhу, с каждым разом люди включаются всё больше и больше. От имени наших стариков и больных шлём Вам большое спасибо за присланную помощь — 15 млн. рублей, которые мы раздали, и ещё двоим из своего фонда добавили.*

*В предпоследнем "Байраме" была статья и фото нашего польского мусульманина Александра Сюлькевича, у меня сохранились фотки с 1935 г., когда его перезахоронили, так что я хочу дополнить, если это будет Вам интересно.*

*Сюлькевич Али Гузман Мирза. Псевдоним Михал Чарны. Он был соратником Юзефа Пилсудского, польского маршала, в партии которого состоял ППС.*

*Родился 8.12. 1867 г. в Скирсаболи Татарской на Сувальщизне.*

*Погиб 18.09. 1916 г. около Ситович на Волыни, 8.09. 1935 г. перезахоронили в Варшаве на военном кладбище на Повонзках. В похоронах принимал участие маршал Рыдз Шмиглы, а также наше духовенство во главе с муфтием Шинкевичем. Прилагаю 4 фотки с похорон.*

*Шлём всем Вам душевный наш привет.*

*С большим всегда уважением к Вам:*

**Али Шагидевич**



## Во имя Аллаһа Милостивого, Милосердного!

*Кадери Ибрагим-эфенди!*

*Мир Вам и милость Аллаһа Всевышнего!*

*Посылаю Вам вырезки из 3 номеров областной газеты «Биржа информации» со статьёй «Татары в истории Беларуси». Материал был подготовлен на русском языке, но с согласия автора редакция напечатала на белорусском языке. Статьёй заинтересовались студенты и преподаватели истфака университета.*

*До того и после мало-помалу стараюсь публиковать в местной печати хоть толику правды о татарах. Есть задумка и предварительная договорённость подготовить серию бесед по истории татар по местному радио. Пробная передача уже была в прошлом году. Думаю, не осудите, что в числе многочисленных источников при подготовке статьи пользовался Вашей с Думиным книгой «Татары Беларусі. Минулае и Сучаснасць».*

*По решению облисполкома мы создали уголок татарской литературы в одной из библиотек города и выписали из Казани за счёт бюджета два журнала и газету. Но к несчастью, в каталоге на второе полугодие периодического издания из Казани нет, если не считать одну газету на русском языке «Вечерняя Казань». Эти сведения даёт Россия. Это очередное наступление на регионы, конкретно на Татарстан.*

*С глубоким уважением и самыми лучшими пожеланиями*

**Саниф Гарданов**

